# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 34 000 рублёў.

1–8 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
№№ 13—14 (2623—2624)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



## ШЛЯХАМ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ

*Валянціна Коўтун — член Саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Украіны, аўтар вядомага рамана "Крыж міласэрнасці", які ўключаны ў школьную бібліятэку і перакладзены на літоўскую і расійскую мовы. Грамадская дзяячка, яна прымала самы актыўны ўдзел у стварэнні Усебеларускага жаночага фонду святой Ефрасінні Полацкай, прэзідэнтам якога затым яе абралі. За 5 гадоў існавання фонду на яго рахунку налічваецца не адна значная справа на карысць жанчын, на карысць усёй Беларусі.*

*Аб гэтым і ішла размова са спадарыняй Валянцінай Коўтун, якая днямі была госцяй нашай рэдакцыі.*

— Лічу: усе пяць гадоў, што існуе наш фонд, былі дзейснымі. Няхай гэта прызнанне не падасца камусьці адсутнасцю сціпласці з майго боку...

**— Я думаю, што ў даным выпадку самі справы гавораць за сябе. І гэта галоўнае. Аб справах мы яшчэ пагаворым, але спачатку аб самой ідэі стварэння фонду святой Ефрасінні.**

— У старажытным славянскім свеце жанчыну называлі "берагіняй". Так, яна зберагала цяпло дамашняга ачага, традыцыі маральныя і культурныя, была міратворкай ва ўласнай сям'і і не толькі. Рэвалюцыйны шквал XX стагоддзя, як бачым, размыў, парушыў старыя маральныя асновы, памяняў арыенціры. І мы гэта вельмі востра адчуваем, асабліва цяпер, калі наша грамадства вышуквае новыя шляхі ў будучыню. Вось чаму жанчыны, якія нешта паспелі зрабіць у сваім жыцці, за якімі стаяць ужо і аўтарытэт, і вядомасць, вырашылі аб'яднацца. Гэта вядомыя дзеячы культуры, мастацтва, педагогі, навукоўцы, медыкі. Асноўная мэта нашага фонду — садзейнічанне развіццю нацыянальнай культуры, навукі, а такама асветніцтва і абарона правоў жанчыны.

**— І з чаго вы пачалі?**

— Пачалі з ініцыятывы, якая, па сутнасці, ужо стала нацыянальнай традыцыяй. Мы абвясцілі 5 чэрвеня агульнанародным Днём Святой Ефрасінні Полацкай, Днём духоўнасці, маралі, жанчыны... Акцыі, якія праводзяцца пад знакам гэтага дня, скіраваны на аб'яднанне народа, на тое яднанне, што перасякае нацыянальныя, рэлігійныя, палітычныя і іншыя бар'еры. У гэтым пачынанні нас падтрымалі: царква, і грамадскія арганізацыі, і шматлікія паломнікі па святых беларускіх мясцінах... Мы таксама ў першы год свайго існавання ўпершыню на Беларусі пачалі і Святаефрасіннеўскія чытанні. Прыемна, што гэтую нашу ідэю падхапілі педагогі, якія стварылі Адукацыйны цэнтр імя Ефрасінні Полацкай, праводзяць аналагічную асветніцкую дзейнасць. Што да нашага фонду, то мы маем самае прамое дачыненне і да ўзнагароджання лепшых людзей Беларусі медалём Святой Ефрасінні Полацкай. Першымі гэтым медалём былі ўзнагароджаны Уладыка Філарэт, пісьменнікі Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў... Цяпер, праўда, мы трохі звузілі кола прэтэндэнтаў у розных намінацыях рамкамі конкурсу "Жанчына года". Сярод узнагароджаных — Валянціна Гаявая, мастацкі кіраўнік славутага ансамбля "Харошкі", народная артыстка Марыя Захарэвіч, прафесар-афтальмолаг Тамара Бірыч, жанчыны — банкір, палітык, манахіня... У сваёй дзейнасці кіруемся думкай аб тым, што ў наш час вельмі важна ўзвышаць жанчыну, а праз яе — увесь наш народ.

Я думаю, што мы не памыліліся, калі медалём Святой Ефрасінні Полацкай была ўзнагароджана пісьменніца Святлана Алексіевіч за распрацоўку чарнобыльскай тэмы. Яе кніга "Чарнобыльская малітва" адыграла вялікую ролю ў выхадзе на сусветны інфармацыйны ўзровень звестак аб нашай бядзе.

Адна з галоўных задач нашага фонду — сабраць найбольш поўную інфармацыю пра жанчын Беларусі, асабліва ў зонах экалагічных бедстваў.

**— Разумею, што ў кароткай размове немагчыма падрабязна спыніцца на гэтай глабальнай задачы. І ўсё ж, калі ласка, хаця б пункцірам акрэсліце яе.**

2 стар.

## ЗАЯВА
### БЕЛАРУСКАГА КАМІТЭТА МІРУ

**З болем і трывогай успрынята ў Беларусі вестка аб бамбардзіроўках сіламі НАТО тэрыторыі суверэннай Югаславіі.**

**Грамадскасць Рэспублікі Беларусь далучае свой голас да асуджэння ваеннай агрэсіі, якая можа прывесці да буйнамаштабнай вайны на Балканах.**

**У многіх простых людзей выклікае здзіўленне той факт, што дзяржавы — удзельніцы НАТО прысвоілі сабе права самастойна, у абход ААН і іншых міжнародных арганізацый, у парушэнне прававых норм, прымаць рашэнні, што датычаць лёсаў многіх краін і мільёнаў нявінных грамадзян.**

**Настойваем на неадкладным спыненні любых ваенных дзеянняў і выкарыстанні ўсіх наяўных сродкаў мірнага ўрэгулявання нацыянальнага канфлікту ў Косаве.**

**Толькі шматбаковы перагаворны працэс можа забяспечыць мір і стабільнасць не толькі на Балканах, але і ў Еўропе ў цэлым.**

**Прэзідыум Беларускага камітэта міру.**




*Мітынг пратэсту ў Мінску.*

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.




СТЫХІЯ



3 стар.

## Тыдзень: Факты. Міжнародны агляд. Падзеі.



У сакавіку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру ЛУКАШЭНКУ ўручыў даверчыя граматы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Гвінейскай Рэспублікі ДЖЫГІ КАМАРА.



У сан архіепіскапа па ўказу патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II узведзены епіскап Віцебскі і Аршанскі ДЗІМІТРЫЙ. Адначасова яму быў уручаны сімвал архіепіскапскага звання — крыж на клабуку. Так адзначана амаль дзесяцігадовае духоўнае служэнне Уладыкі на Віцебшчыне.

Вытворчасць дзіцячых калясак прадстаўнікамі малога бізнесу ў Гомелі і прыгатаванне па асобай тэхналогіі сыроў на Крычаўскім малочным заводзе немагчымыя, аказваецца, без плецений прадукцыі чачэрскага вытворча-гандлёвага прадпрыемства "Надзея". Тутэйшыя майстры маюць багаты вопыт вырабу прадметаў з лазы, якія карыстаюцца вялікім попытам у рэспубліцы.



Плецены карпусы для калясак рыхтуе Ганна АКУЛАВА.



У Мінскім абласным радзільным доме летась убачылі свет 2 550 маленькіх грамадзян Беларусі. Гэтая медыцынская ўстанова — адна з лепшых у рэспубліцы. Раддом укамплектаваны сучасным медыцынскім абсталяваннем, тут працуюць высокакваліфікаваныя спецыялісты.

*На здымку:* ардынатар радзільнага аддзялення Вольга ЗОЛІНА з нованароджаным.

**Фотахроніка БелТА.**

● **Юрась ДОМНІЧ.**

### БЕЛАРУСКІ ПРАДСТАЎНІК ПЕРШЫМ ВЫСТУПІЎ НА ПАСЯДЖЭННІ КАМІСІІ ААН

Афіцыйная беларуская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам Беларусі, міністрам замежных спраў Уралам Латыпавым брала ўдзел у чарговай сесіі Камісіі ААН па правах чалавека, якая 22 сакавіка распачала працу ў Жэневе (Швейцарыя).

Пленарнае пасяджэнне камісіі пачалося з выступлення Урала Латыпава. Адзначыўшы, што Беларусь гатова да актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва па пытаннях правоў чалавека, міністр падкрэсліў, што яно павінна ажыццяўляцца на аб'ектыўным і раўнапраўным грунце. Беларусь — адна з нямногіх краін на постсавецкай прасторы, дзе няма ўнутраных і пагранічных канфліктаў і ўсе грамадзяне, незалежна ад нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці, карыстаюцца роўнымі правамі, адзначыў спадар Латыпаў. Па звестках прэс-службы МЗС, значная ўвага ў выступленні кіраўніка беларускай дэлегацыі была нададзена сацыяльна-эканамічнай, экалагічнай састаўляючым правоў чалавека, удасканаленню міжнародна-прававога механізма іхняга забеспячэння.

Пытанні ўдзелу Беларусі ў міжнародным гуманітарным супрацоўніцтве былі абмеркаваны ў Жэневе на сустрэчах Урала Латыпава з намеснікам генеральнага сакратара ААН Уладзімірам Пятроўскім, старшынёй сесіі Камісіі ААН па правах чалавека Анэ Андэрсан і вярхоўным камісарам ААН па правах чалавека Мэры Робінсан.

### У ЦЭНТРЫ ДВУХ ТРАНСЕЎРАПЕЙСКІХ КАЛІДОРАЎ

У Мінску, у памяшканні каардынацыйнага бюро ТАСІС па Беларусі, адбылася першая нарада, прысвечаная ўдасканаленню транспартных патокаў па двух трансеўрапейскіх калідорах. Размова, у прыватнасці, ішла аб транспартных калідорах Масква — Мінск — Варшава — Берлін — Парыж і Санкт-Пецярбург — Магілёў — Гомель — Кіеў — Адэса.

Праект, які прадугледжвае ўдасканаленне памянёных трансеўрапейскіх калідораў і разлічаны на 2,5 года, будзе ажыццяўляцца ў межах праграмы ТАСІС Еўрапейскага саюза па прапанове кансорцыума DORSCH. У састаў кансорцыума ўваходзяць кампаніі Dorsch Consult (Германія), Scetauroute і ISIS (Францыя), Halcrow Transmark (Вялікабрытанія) і Finnroad (Фінляндыя). Кансорцыум падтрымліваюць яшчэ тры кампаніі-субпадрадчыкі з краін ЕС — Вялікабрытаніі, Ірландыі і Італіі.

Паводле слоў выканаўчага дырэктара каардынацыйнага бюро праграмы ТАСІС Леаніда Арлова, ад Расіі, Украіны і Беларусі — краін-партнёраў, праз якія праходзяць памянёныя транспартныя калідоры, — у праекце бяруць удзел вядучыя аўтатранспартныя кампаніі "Саюздарпраект", "Кіеўсаюздарпраект" і "Белгіпрадар".

### ПОЛЬШЧА І ТУРКМЕНІСТАН ПЛАНУЮЦЬ УВЕСЦІ ВІЗАВЫ РЭЖЫМ

Адразу дзве непрыемныя для Беларусі весткі былі абнародаваны на днях. Польшча плануе не пазней дня ўступлення ў Еўрапейскі саюз увесці візавы рэжым для грамадзян 15 краін, у тым ліку і Беларусі. Акрамя дзяржаў СНД, гэта датычыцца Балгарыі, Кубы, Манголіі, Македоніі і Румыніі. Адначасова польскія ўлады шукаюць магчымасці захаваць бязвізавае перамяшчэнне ў прыгранічнай зоне з Украінай. Такім чынам, Польшча імкнецца "загерметызаваць" усходнія граніцы, што тлумачыцца інтэграцыяй краіны ў Еўрасаюз.

Тым часам афіцыйны Ашхабад паведаміў Расіі, краіне, якая старшынствуе ў Савеце кіраўнікоў дзяржаў СНД, пра тое, што Туркменістан выходзіць з Пагаднення аб бязвізавым перамяшчэнні грамадзян СНД па тэрыторыі яго ўдзельнікаў. Туркменскія ўлады аргументуюць рашэнне аб увядзенні візавага рэжыму тым, што магчымасці, прадастаўленыя гэтым пагадненнем, прывялі да прытоку ў краіну крымінальных элементаў. Адначасова ўлады Туркменістана падкрэсліваюць, што іх рашэнне ні ў якім разе не трэба ўспрымаць як імкненне разарваць адносіны з іншымі дзяржавамі.

Адзіным суцяшэннем на гэтым фоне можа быць паведамленне аб падпісанні беларуска-славацкага міжурадавага пагаднення аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе ў мытных справах. Згодна з гэтым дакументам, мытныя органы дзвюх дзяржаў збіраюцца сумесна працаваць над спрашчэннем рэжыму перамяшчэння тавараў і фізічных асоб, а таксама ў галіне ўдасканальвання мытных тэхналогій, метадаў і працэдур.

## ПАД ГУКІ ФАНФАР

У культурным жыцці Беларусі адбылася важная падзея: сваю работу завяршыў установчы з'езд Беларускай гільдыі жывапісцаў. Гэтае ўрачыстае мерапрыемства адкрыў сваім выступленнем дыпламант міжнароднага фестывалю "Wasbe" ансамбль трубачоў "Festivo" Беларускага універсітэта культуры пад кіраўніцтвам Аляксандра Карацеева. Фанфарныя акорды, пранікнёная канцилена старадаўняй музыкі XVI стагоддзя, яркія тэмбры труб садзейнічалі стварэнню святочнай атмасферы. Цяпер ужо можна з упэўненасцю адзначыць, што адбылося нараджэнне новага творчага саюза рэспублікі. Беларуская гільдыя жывапісцаў аб'яднала мастакоў, якія працуюць пераважна з акварэллю, у станковым і манументальным жывапісе, сучасных відах і жанрах мастацтва.

Зыходзячы з пазначаных задач і мэты дзейнасці, Беларуская гільдыя жывапісцаў (БГЖ) будзе канцэнтраваць свае сілы на арганізацыі і правядзенні маштабных нацыянальных і міжнародных акцый, пленэраў, выстаў і да т. п. У планах новага творчага саюза — усебаковая падтрымка маладых мастакоў, прысваенне стыпендый лепшым студэнтам аддзялення жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў, Мінскага мастацкага вучылішча, стварэнне базавай мастацкай галерэі, шырокай інфармацыі пра мастакоў, арганізацыя выдавецкай дзейнасці, а таксама ўсебаковая юрыдычная дапамога членам гільдыі.

Беларускія жывапісцы ўжо даўно паспяхова прадстаўляюць свае творы на выставах Еўропы. І новы творчы саюз будзе гэтаму актыўна садзейнічаць. Ужо ёсць канкрэтныя прапановы аб супрацоўніцтве ад аўтарытэтных міжнародных творчых структур. Прэзідэнтам Беларускай гільдыі жывапісцаў на ўстаноўчым з'ездзе быў аднадушна абраны добра вядомы на Беларусі мастак Фёдар Ястраб, былы генеральны дырэктар Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў рэспублікі.

Нараджэнне Беларускай гільдыі жывапісцаў адбылося, напярэдадні — заманлівыя перспектывы, творчыя задумы і пошукі. "Няхай работы членаў гільдыі будуць такімі ж яркімі, звонкімі, сакавітымі, калярытнымі, як гучанне нашага ансамбля", — адзначыў кандыдат мастацтвазнаўства, кіраўнік ансамбля "Festivo" Аляксандр Карацееў.

**Васіль КАСЮЧЭНКА.**

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ШЛЯХАМ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Наша новая праграма называецца "Жанчыны ў зоне экацыду". Распачалі мы яе ў 1997 годзе, і першай буйной акцыяй стаў саміт з гэтай жа назвай і зместам, які мы правялі пры падтрымцы міжнародных дабрачынных арганізацый USIS і SAR, да якіх далучыліся нашы Міністэрства аховы здароўя, адукацыі, Інстытут радыяцыйнай бяспекі. У саміце ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі Літвы, Расіі, Украіны, Малдовы, ЗША. Гэта новая праграма — адно са звёнаў напрамку "Чысціня маралі".

Дарэчы, саміт падштурхнуў чыноўнікаў да стварэння праекта новага закона аб экалагічнай інфармацыі. Я была запрошана прыняць удзел у яго абмеркаванні.

**— Але ж вернемся да вашай праграмы. Які працяг яна атрымала пасля саміта?**

— Мы больш паглыбілі яе. У гэтым годзе створаны цэнтр, які так і называецца — "Жанчыны ў зоне экацыду", а таксама жаночая экалагічная школа, з якой супрацоўнічаюць эколагі, юрысты, грамадскія дзеячы. Ужо праведзены семінары па пэўных тэмах у Наваполацку, Бабруйску, Шчучыне, Лідзе, Пінску, Слуцку, Маладзечне. Збіраемся ў новыя гарады. Наш клопат пра тых, каму цяпер найбольш цяжка як у фізічным, так і ў маральным плане. Гэтая вялікая, аб'ёмная праграма завяршыцца першым у Беларусі міжнародным жаночым форумам "Жанчына. Планета. Будучыня", што прымеркаваны да агульнанароднага Дня Святой Ефрасінні. З тых праблем, якія мы збіраемся абмяркоўваць на форуме, галоўная — права жанчыны на высокую якасць жыцця. Але на гэтым наш Святаефрасіннеўскі шлях не завершыцца, бо доўгая дарога чакае наша грамадства да ўсведамлення маральных ісцін, і крочыць нам усім разам.

З таго, што плануем ажыццявіць у бліжэйшы час, — паломніцка-экалагічны шлях. У нашых планах таксама паломніцтва ў Іерусалім, якое мы назвалі сімвалічна для ўсёй Беларусі "Шляхам святой Ефрасінні ў трэцяе тысячагоддзе". Пастараемся яго здзейсніць і будзем вельмі ўдзячныя тым, хто захоча нам чымсьці дапамагчы.

Гутарыла **Маргарыта СТАРЫХ.**



СТЫХІЯ



Спецыялісты-гідролагі прадказваюць гэтай вясной максімум "вялікай вады". Ужо цяпер у краіне пацярпелі жыхары амаль сарака раёнаў. Падтоплена больш за 200 населеных пунктаў, 5 тысяч дамоў, 8 тысяч падворкаў. З пацярпелых раёнаў адселена 2,5 тысячы чалавек. У Віцебску, каб папярэдзіць небяспеку, прагрымела серыя магутных выбухаў, якія раскрышылі паўметровы ледзяны покрыў. Са стыхіяй беларусы па звычцы змагаюцца талакой, пацярпелым ад паводкі аказваецца дапамога.









# ПАВОДКА









СТЫХІЯ

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# «ФРАНЦЫЯ — ВАЧЫМА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ»



*Самыя юныя ўладальнікі прызоў.*

**20 сакавіка, калі адзначаецца Міжнародны дзень франкафоніі, у Доме дружбы адкрылася выстава "Францыя — вачыма беларускіх дзяцей". На ёй былі прадстаўлены работы ўдзельнікаў конкурсу, які ладзіўся таварыствам "Беларусь — Францыя" пры падтрымцы французскага пасольства.**

Дзецям, як нікому іншаму, дадзена тонкае ўспрыманне прыгажосці навакольнага свету, быцця. Мо таму дзіцячыя вернісажы заўсёды нясуць адчуванне свята. А на апошнім гэта свята было падвоеным, бо аб'ектам творчых памкненняў юных мастакоў сталі Парыж, замкі, саборы, Эйфелева вежа і многае іншае, што складае рамантычна-ўзнёслае ўяўленне аб Францыі.

Колькі вялікіх людзей услаўлялі Парыж — горад, які трэба пабачыць і толькі тады памерці, горад-свята, якое заўсёды з табой... Мінчанін Саша Арынушкін, якому ўсяго пяць гадоў, таксама аддаў даніну аднаму з самых прыгожых гарадоў свету. Ва ўяўленні хлопчыка Парыж — гэта водбліскі начных агнёў, святочнага феерверку, якія, быццам загадкавыя іерогліфы, праступаюць на чорным аксаміце неба. Саша атрымаў спецыяльны прыз як самы юны ўдзельнік конкурсу, але я думаю, што члены журы адзначылі таксама і лаканічную вобразнасць яго работы.

Аня Карніенка з пасёлка Прылукі Мінскага раёна прадставіла на конкурс работу "Парыж пасля дажджу" і атрымала прыз за выбар тэмы. Аддалі даніну юныя паклоннікі Францыі і сімвалу Парыжа — Эйфелевай вежы. Ёй прысвечана не адна работа, але ў мінчанкі Вікі Пятрэнка яна набывае нейкі філасофска-сімвалічны змест. Віка перанесла "сімвал Парыжа і сведку тэхнічнага прагрэсу" ў бялюткае ад рамонкаў поле, у тую чысціню і гармонію, якія бязлітасна знішчаюцца гэтым самым прагрэсам. А назвала дзяўчынка свой твор — "Пяшчота". Так, яны могуць суіснаваць — рамонкі і цуд інжынернай думкі, толькі трэба захаваць у сваім сэрцы пяшчоту, каб апошняе не ўзяло верх над першым.

Хворы падлетак Арцём Лімански, які знаходзіцца на лячэнні ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры дзіцячай анкалогіі і гематалогіі ў Бараўлянах, назваў свой твор "Выратаванне". Ледзь бачныя прамяні, што выходзяць з купала сабора, імкнуцца ў нябесную вышыню. Так, мы ўжо пачынаем усведамляць: чым больш светлай энергетыкі ад нашых добрых помыслаў і спраў узнясецца ў Космас, тым больш яе вернецца да нас. І Арцём нам напамінае, каб у будзённай мітуслівасці мы не забывалі аб гэтым. Арцём Лімански атрымаў спецыяльны прыз "За мужнасць".

Уладальнікам першага прыза стаў Сярожа Кастроў (14 гадоў, г. Бабруйск). Яго работа "Зімняя Сена" зачаравала не толькі членаў журы. Другі прыз атрымаў Антоша Чарнышоў (6 гадоў, г. Бабруйск), якога прывабіла "Горная Францыя". Абодва хлопчыкі, як і яшчэ двое прызёраў — Ілюша Баншчыкаў (7 гадоў, "Дзіцячы пленэр у Францыі") і Маша Бацішчава (11 год, "Рух" — своеасаблівая ілюстрацыя да твора французскага кампазітара Дзідзье Маруані "Касмічная опера") — выхаванцы дзіцячай студыі "Вясёлка".

Колькі ўдзельнікаў конкурсу (а іх было не так ужо мала, з розных гарадоў Беларусі), столькі і ўяўленняў аб Францыі. Маша Пятрушына (Мінск, 15 гадоў) назвала свой твор "Па слядах Мане. Рамантычны вобраз Францыі". Маці і бабуля сумняваліся наконт яе стылістычнай правільнасці, але сама работа гэтую спрэчку перакрэсліла, бо цалкам адпавядае сваім зместам назве.

А вось у рабоце Надзі Навіковай з Маладзечна "Сабор Парыжскай Божай Маці" сама беларуская традыцыйная тэхніка выцінанкі робіць незвычайны эфект, падкрэсліваючы лёгкасць і ажурнасць гэтага славутага збудавання.

Спатканне з Францыяй, хаця і завочнае, адбылося. Ну а тое, што не ўсе ўдзельнікі выйшлі ў фінал, сталі прызёрамі,.. дык на тое і спаборніцтвы. Між іншым, акрамя дыпломаў, прызёры атрымалі таксама падарункі ад пасольства Францыі — набор французскіх фарбаў, каталог выставы Марка Шагала, альбом аб Францыі.

І ўсё ж, усё ж... Можа трэба падумаць дарослым, каб адшукаць магчымасць наладзіць у самой Францыі дзіцячы пленэр для пераможцаў конкурсу. Яны заслужылі гэту сустрэчу з Францыяй.

Між іншым, адзін з удзельнікаў конкурсу, сямігадовы Ілюша Баншчыкаў, так і назваў сваю работу — "Пленэр у Францыі".



*Пераможца Сярожа КАСТРОЎ з Бабруйска.*



*Адразу столькі Эйфелевых вежаў, што вочы разбягаюцца.*

НА КОНКУРС "БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ"

# ГОРАД МАРАЎ



Добры дзень, шаноўная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"! З прывітаннем да вас Святлана Адамовіч, настаўніца беларускай мовы і літаратуры з Чэрвеня. Мы ўсёй сям'ёй чытаем вашу газету ўжо даўно. Некалькі гадоў таму ў "Голасе Редзімы" быў надрукаваны артыкул майго брата — журналіста Ігара Адамовіча пра нашага земляка, паэта Тодара Лебяду (Пятра Шырокава). А цяпер і я вырашыла напісаць у "Голас Радзімы".

Жадаю вам далейшых творчых поспехаў.

г. Чэрвень,
Мінская вобласць.

**Святлана АДАМОВІЧ.**

РАДЗІМА... Бацькаўшчына... Айчына... Святыя словы, якія з гонарам вымаўляе кожны сапраўдны грамадзянін сваёй краіны. З глыбокім душэўным хваляваннем гавару і я: "Мая Радзіма — Беларусь". У яе летапісе столькі нязведанага і таемнага, велічнага і незаўважанага, што ніколі не стомішся знаходзіць і адкрываць нешта новае, незвычайнае і непаўторнае.

Некалькі год таму мне пашчасціла зрабіць адно з такіх адкрыццяў: я ўбачыла найпрыгажэйшы горад Беларусі — Нясвіж. Той, хто пабываў у ім хоць аднойчы, ужо ніколі не забудзе гэты горад з дзіўнай гульнёй святла і ценю, з велічным замкам, шматлікімі паркамі, сажалкамі, помнікамі... З подыхам сівой даўніны... Я прапаноўваю зрабіць невялікае падарожжа па старажытнаму гораду і пазнаёміцца з яго прыгожымі мясцінамі.

Па маляўнічых нясвіжскіх парках можна гуляць бясконца. І ніколі не надакучыць разглядаць старыя дрэвы, статуі, камяні, глядзецца ў таемную глыбіню сажалак. А як лёгка дыхаць незвычайна свежым паветрам, напоўненым водарам кветак, травы, водарасцяў. У Нясвіжы я ўпершыню ўбачыла вербы з сярэбранымі лістамі, якія здалёк блішчалі і пераліваліся на сонцы. Уразілі мяне і нізкарослыя дрэвы, лістота якіх утварае шары. А фігуры двух каменных ільвоў! Гэта любімае месца адпачынку. Для фатаграфавання ж чамусьці чарговы раз абрала месца поруч з помнікам сабаку, які (па легендзе) аднойчы выратаваў свайго гаспадара — князя Радзівіла.

Абавязкова прыцягне вашу ўвагу і велічны касцёл. Каля яго белых сцен на душы становіцца лёгка і спакойна... А вось заглядваць у вокны падвальнага памяшкання (склепа) без дрыжыкаў немагчыма: у густым прыцемку праглядваюцца абрысы трун. Да жудасці сцішна, але і прыцягальна. Хочацца хоць такім чынам дакрануцца да таямніц славутага роду Радзівілаў. Успамінаюцца шматлікія легенды, у тым ліку і аб трагічнай смерці некаторых прадстаўнікоў гэтага роду.

І, безумоўна, нельга абмінуць адну з самых велічных пабудоў у горадзе — замак Радзівілаў. Гляджу на яго вежы — і нараджаюцца радкі...

Гадзіннік б'е. Нясвіж адпачывае.
Цікаўны месяц свой забыўся сон:
Чароўную жанчыну бачыць ён
І светлую сцяжынку пракладае...

Нячутны крокі. Ціхае дыханне...
І смутак-жаль, і слёзы у вачах...
Нясвіжская княгіня-прыгажуня
Пускаецца у свой адвечны шлях.

Глядзіцца ў люстра, хоча твар
убачыць,
Ды люстра свой адбітак не дае:
На вечнае блуканне і пакуты
Асуджана красуня ў даўніне...

Чорная Дама... Таемны і загадкавы прывід... Трагічнае каханне Барбары Радзівіл... Яна стала мне яшчэ больш блізкай, калі я пабывала на адкрыцці выставы У. Стальмашонка ў Нацыянальным мастацкім музеі і пабачыла яе партрэты, выкананыя рукою майстра...

Асаблівую прыгажосць падорыць вам бліжэйшы да замка парк вечарам, калі запальваюцца ліхтары і ў іх святле як быццам бы ажываюць статуі і фігуры. Становіцца страшнавата. Але як жа адмовіць сабе ў задавальненні паглядзець на вячэрні Нясвіж?!

Дарэчы, у мінулым годзе на свяце дажынак амаль увесь час ішлі дажджы, плошча і вуліцы выглядалі не лепшым чынам... Але ўсё ж... гэта быў Нясвіж. Прыгожы і таемны, знаёмы і загадкавы. І мне падабалася гуляць пад парасонам, назіраць, як па сажалках коцяцца хвалі, а на іх, схаваўшы галовы пад крылы, гайдаюцца шэрыя качкі. Падабалася назіраць, як з лістоты скочваюцца буйныя кроплі... Хто прыдумаў, што ў час дажджу ўсё шэрае? Не, гэта быў зеленалісты Нясвіж з чырвонымі дахамі дамоў, рознакаляровымі катамаранамі і блакітнай вадой возера. Прыгажосць, якая праглядвалася праз празрыстую сцяну вады, зачароўвала і захапляла.

Разам з сяброўкай Вольгай Мажуткай селі на катамаран і ад'ехалі ад

# ДЗЕНЬ СВЯТОГА ПАТРЫКА ПРАЙШОЎ У МІНСКУ

***Святы Патрык, ахоўнік Ірландыі, як і сам народ ірландскі і яго культура, выклікаюць сімпатыі ва ўсім свеце. Таму і Дзень Святога Патрыка, які прыпадае на 17 сакавіка, адзначаецца не толькі ў самой Ірландыі, а і ў многіх іншых краінах.***

***Упершыню гэтае свята сёлета прыйшло на Беларусь. Ініцыятары святкавання і арганізатары — таварыства “Беларусь — Ірландыя” (яно створана год назад, але на рахунку мае ўжо не адну дабрачынную акцыю), а таксама дзіцячы фонд “Сакавік”.***




З гэтай нагоды Мінск наведала дэлегацыя з Ірландыі, у складзе якой былі грамадскія дзеячы, работнікі культуры, самадзейныя і прафесіянальныя артысты, прадстаўнікі дабрачынных фондаў. За тыдзень, што госці знаходзіліся ў Мінску, яны наведалі сталічныя тэатры і музеі, дзіцячыя дамы-інтэрнаты Мінска і Чэрвеня, пасёлка Чырвоная Слабада... Ну і, вядома ж, немагчыма было не запрасіць ірландскіх гасцей у адзін са сталічных піўных бараў.

Зразумела, самым насычаным па праграме днём стаў святочны. Дзень Святога Патрыка пачаўся ў Доме дружбы семінарам. Тэмы дакладаў яго мелі самы шырокі аспект сувязей нашых двух народаў — ад даследавання ранніх кантактаў беларусаў з кельтамі ў сярэднявеччы да сучасных перакладаў ірландскай паэзіі на беларускую мову.

На гэтым рабочая частка завяршылася, і нашы госці прынялі ўдзел у святочным шэсці па цэнтральных алеях парку імя М. Горкага. Яркае сонца, рознакаляровыя шары, забаўныя маскі і надпісы на транспарантах, маладосць большасці ўдзельнікаў надалі святу асаблівы веснавы настрой.

А ўвечары Святы Патрык зноў гаспадарыў у Доме дружбы — святочны канцэрт завяршыў цудоўны дзень, які спрыяў таму, каб далёкая краіна Ірландыя стала нам больш блізкай і знаёмай.

Падборку падрыхтавала
**Марта КОСЦІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА і Мікалая ПЯТРОВА.**





берага. Вельмі цікава зазіраць у вочы каменным ільвам, пад’ехаўшы да іх так блізка, што можна было пры жаданні дакрануцца рукой да гладкіх галоў. А якія прыгожыя водарасці ў гэтай сажалцы! Адшукаеш сярод іх самыя адмысловыя, пад’едзеш і сарвеш... На памяць. Праўда, у руках яны бездапаможна абвісаюць і ўжо не здаюцца такімі незвычайнымі... Тым не менш, і засушаныя нагадваюць мне аб Нясвіжы.

...Я ўдыхаю пах водарасцяў і разглядваю фотаздымкі, зробленыя маёй сяброўкай. Выпагадзілася, сонечны прамень дакрануўся да іх... Яны сталі такімі яркімі і насычанымі, што, здавалася, былі зроблены ў такі ж сонечны дзень. Зеляніна ператварылася з цёмнай у ярка-ізумрудную. Ды і самі здымкі як быццам пасвятлелі... Праз колькі хвілін сонца схавалася, і я ўбачыла адлюстраванне тых пахмурных дзён, якія часта здараліся мінулым летам. Але яшчэ адна таямніца Нясвіжа была разгадана...

Вось такім я ўбачыла гэты горад і хацела паказаць яго вам.

Ён для мяне стаў найлепшым ва ўсёй Беларусі. А тое, што не нарадзілася там, мо і лепей, бо невядома, як бы зблізку і штодзень успрымалася ўся гэтая прыгажосць. А так збылася мая мара пабываць у “Парыжы”. Памятаеце, у Якуба Коласа? “Міхаіл лічыў Нясвіж Парыжам...” Менавіта гэта я прыгадвала, гуляючы па двары былой Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі і любуючыся прыгожымі кветнікамі...

Я хачу яшчэ неаднойчы наведаць Нясвіж, дакрануцца да яго таямніц, пахадзіць па дагледжаных сцежках паркаў, палюбавацца велічнымі сценамі замка і чыстымі абрысамі касцёла... Хачу ўбачыць Нясвіж такім, якім бачылі яго гаспадары — князі Радзівілы... Хачу ўбачыць архітэктурна-паркавы ансамбль у Альбе, беззваротна страчаны ў 1812 годзе, і замак знутры такім, якім ён быў у перыяд свайго росквіту... Я хачу ўбачыць Нясвіж зімой, у бялюткім убранні, і першай пракласці сцежку ў пульхным снезе, што засыпле стары парк...

Вось такі ён, мой “Парыж” — таемны і загадкавы, велічны і просты, светлы, незвычайны, захапляючы... Мой любімы куток Беларусі... Горад маіх мараў...

Блакіт азёраў, паркаў
зеляніна...
Чароўная нясвіжская зямля!
Магутны род магнатаў
Радзівілаў
Цябе стварыў. Яму



*Нясвіж, 1998 г.*

БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# ДЭУНІЗАЦЫЯ

***АД РЭДАКЦЫІ.*** *Артыкул гісторыка, доктара навук, прафесара Леаніда Лыча мае праблемны характар і прысвечаны адной з лёсавызначальных у гісторыі нашага народа падзеі — скасаванню Берасцейскай рэлігійнай уніі. Як і ўсё, што звязана з рашучым рушэннем усталяванай традыцыі (а унія без малога праіснавала ў нашым краі 250 гадоў), тут не абышлося без асабістых, а таксама сацыяльна-грамадскіх драм і трагедый.*

*Леанід Лыч разглядае тыя далёкія падзеі не з царкоўных, а з патрыятычных і грамадзянскіх пазіцый, даследуючы тое, як яны адбіліся на гістарычным лёсе беларускага народа, яго кансалідацыі і жыццястойкасці, волі да годнага і незалежнага дзяржаўнага існавання, на духоўных вартасцях, перш за ўсё мове як трывалым грунце развіцця нацыі.*

*Напэўна не ўсё, выказанае даследчыкам, выкліча аднадушную прыхільнасць. Мусіць знойдуцца ахвочыя на фактычным матэрыяле аспрэчыць канцэпцыю аўтара. Такія матэрыялы рэдакцыю таксама зацікавяць. Тут жа ўсяго толькі зазначым, што праваслаўе, як і каталіцтва, і пратэстанцтва, і іншыя адгалінаванні хрысціянскай веры, адыгрывала ў пэўных канкрэтных абставінах існавання таго ці іншага народа важную ролю як дзейсны фактар яго самасцвярджэння і абароны ад экспансіі іншых этнасаў. І для беларусаў праваслаўе таксама шмат значыла. Гэта добра адчувае на сабе беларуская эміграцыя ў далёкім замежжы, бо яна здолела сябе захаваць і сцвердзіцца нацыянальна адметным этнасам, найперш дзякуючы беларускай праваслаўнай царкве, як аўтакефальнай, так і падпарадкаванай грэчаскаму патрыярху. І сёння ў беларускіх праваслаўных святынях ЗША і Канады, Аўстрыі і Англіі гучыць беларуская мова ў вуснах і святароў, і вернікаў. Не выклікае сумнення таксама роля праваслаўнай царквы ў кансалідацыі і этнічнай самазахаванасці беларусаў Беласточчыны.*

*Хочам падкрэсліць, што кожная значная грамадская і рэлігійная з’явы развіваюцца ў пэўных супярэчнасцях і патрабуюць ацэнкі з улікам канкрэтных гістарычных умоў. Менавіта ў гэтым і заключаецца значнасць артыкула Леаніда Лыча.*

*У планах рэдакцыі надрукаваць у газеце матэрыялы пра дзейнасць на Беларусі іншых канфесій, пра іх ролю і месца ў гісторыі развіцця як карэннага народа, так і тых, што ў добрай згодзе на працягу стагоддзяў жывуць побач і разам з беларусамі.*

*Увогуле чакаем ад чытачоў-навукоўцаў грунтоўных матэрыялаў, прысвечаных лёсавызначальным момантам у жыцці беларускага народа, уключаючы і прагназаванне яго месца і ролі ў агульначалавечай супольнасці ў XXI стагоддзі. Нам таксама хацелася б вызначыць агульную беларускую думку на працэсы сучаснасці.*

У НАШАЙ шматвяковай гісторыі ёсць нямала неардынарных падзей, што пакінулі адметны след у лёсе народа. Да іх з поўнай падставай можна аднесці і скасаванне ў 1839 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі. Наша зямля яшчэ не ведала такога буйнамаштабнага і кароткага па часе пераходу людзей з адной веры ў іншую. Некалі, каб павярнуць язычнікаў у хрысціянскую веру, не хапіла і цэлага стагоддзя. Жаданне прыхаджан-уніятаў далучыцца да праваслаўя зусім не лічылася абавязковай умовай, што не магло не парадзіць сярод іх масавага незадавальнення.

Забароненае Найсвяцейшым Сінодам уніяцтва для многіх яго вернікаў стала пасля гэтага нават яшчэ больш дарагім. Аляксандр Герцэн у 27-м нумары газеты “Колокол” прыводзіць факты пасылкі ў 1858 годзе віленскім генерал-губернатарам У. Назімавым войскаў для дапамогі праваслаўнаму духавенству схіліць у лона сваёй царквы незгаворлівых уніятаў. Дух уніяцтва і надалей працягваў жыць, асабліва ў тых мясцінах, куды цяжка было дайсці праваслаўю, царскім чыноўнікам. Згодна з даследаваннямі рускага географа і этнографа Аляксандра Рыціха, грэка-уніяцкая рэлігія захоўвалася на пачатку другой паловы XIX стагоддзя і ў Аўгустоўскай губерні Царства Польскага, хаця тут панавала каталіцтва.

Пакуль на Беларусі існавала уніяцтва, царскай уладзе вельмі цяжка было, выкарыстоўваючы рэлігійны фактар, падпарадкаваць яе. З праваслаўнымі радавыя уніяты лёгка ішлі на збліжэнне і прымірэнне дзякуючы агульнаму як для першых, так і другіх усходняму царкоўнаму абраду, а з католікамі іх яднала падначаленне адзінаму ў Рыме папе. Скасаванне уніі прывяло да раз’ядноўвання адзінага беларускага народа.

Падзеі разгортваліся драматычна. У вялікай роспачы сотні тысяч беларусаў-уніятаў, каб як мага больш дапячы рускаму праваслаўнаму духавенству за такую акцыю, кінуліся ў абдымкі да каталіцызму, з якім яны да гэтага беспярэстанку ваявалі, бо не жадалі здраджваць уніяцкай царкве, стаць лёгкай здабычай паланізацыі. Сёй-той з высокіх прадстаўнікоў рускага праваслаўнага духавенства разумеў усю згубнасць прынятага ў 1839 годзе царкоўнага акта, але не пярэчыў і строга выконваў волю Найсвяцейшага Сінода. Невыносна цяжка пачувалася многім з тых, хто з прычыны патрабаванняў колішняга веравызнання не меў ужо цяпер магчымасці паводле здаўна ўсталяваных традыцый ахрысціць дзяцей ці стаць пад вянец у храме, пахаваць каго-небудзь з членаў сям’і і г. д. Пераканаўчым доказам моцнай далучанасці беларусаў да уніяцкай царквы з’яўляецца тое, што тысячы з іх добраахвотна выбралі эміграцыю ў чужыя, нават і далёкія па адлегласці краіны (напрыклад, Бразілію) замест таго, каб прыняць праваслаўную ці каталіцкую веру. Але як бы цяжка ні было рабіць выбар паміж імі, рана ці позна былым уніятам давялося ўсё ж вызначыцца. Без веры ў Бога людзі ў той час не маглі жыць.

Так адзіны беларускі этнас не па сваёй волі, а ў выніку адміністрацыйнага скасавання яго рэлігіі стаўся падзеленым у канфесійным плане на дзве часткі: праваслаўных (большая) і католікаў (меншая). Знаходзіліся людзі, якія вельмі хутка ўсвядомілі трагедыю такога канфесійнага падзелу беларусаў і настойліва заклікалі іх не парываць канчаткова з уніяцтвам, імкнуцца да таго, каб мець, як рускія і палякі, сваю ўласную нацыянальную рэлігію. На царкоўную унію як сродак паглыблення этнічнай кансалідацыі, пераадолення рэлігійнага расколу беларускага народа глядзеў кіраўнік паўстання 1863—1864 гадоў Кастусь Каліноўскі. Гэтаму шмат месца было прысвечана ў шостым нумары газеты “Мужыцкая праўда”. Паводле меркаванняў правадыра паўстання, ва ўмовах Беларусі найбольш паспяхова з функцыяй нацыянальнай царквы можа спраўляцца толькі уніяцкая. І з гэтым нельга не пагадзіцца, бо ў той час праваслаўная царква Беларусі ва ўсім залежала ад Найсвяцейшага Сінода Расіі, а каталіцкая — ад польскага духавенства, таму ў іх намерах анічога станоўчага не мелася ў дачыненні да беларускай ідэі. Не выпадкова адмена забароны уніяцкай царквы на Беларусі з’яўлялася адным з найважнейшых патрабаванняў шэрагу праграмных дакументаў, выпрацаваных напярэдадні паўстання 1863—1864 гадоў.

(Заканчэнне на 12-й стар.).

# МЕНСК — ГОРАД ВОЛЬНЫ

**МЕНАВІТА ТАКІ ДЭВІЗ МАЕ ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 500-годдзю НАДАННЯ МІНСКУ (НА ТОЙ ЧАС МЕНСКУ) МАГДЭБУРГСКАГА ПРАВА.**



*На выставе. На пярэднім плане — мінскія вагі 1724 года.*

Адкрылася выстава 19 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Народу сабралася шмат і самага рознага, пачынаючы, скажам, ад слыннага паэта сучаснасці Ніла Гілевіча да студэнтаў-першакурснікаў Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, якія прыйшлі сюды разам са сваёй выкладчыцай беларускай мовы Вольгай Кузьміч. Былі тут і прадстаўнікі замежных пасольстваў у Беларусі, а Маскву неафіцыйна прадстаўляў добра вядомы культурнай беларускай грамадскасці гісторык і публіцыст, аўтар некалькіх кніг Аляксей Каўка, у мінулым таксама дыпламат.

Першае слова, як і належыць, узяў гаспадар, дырэктар Нацыянальнага музея Захар Шыбека. Сказаў, што сённяшні прадстаўнічы сход варта ўзвесці ў ранг юбілейнага пасяджэння менскага магістрата. Коратка распавёў аб значэнні магдэбургскага права для развіцця і станаўлення роднага горада, для дабрабыту месцічаў. Пра ўсё гэта выступоўца, няма сумнення, мог бы гаварыць на працягу некалькіх гадзін, бо ён аўтар найбольш значнай як памерамі, так і зместам кнігі пра Мінск.

З гонарам пра Мінск як вольны еўрапейскі горад, які мужна адстойваў здыбытыя правы, пра тое, што нам трэба захоўваць і памнажаць слаўныя традыцыі, аднавіць разбураныя выдатныя архітэктурныя помнікі, а найперш гарадскую ратушу, дзе колісь засядаў войт і магістрат, а цяпер можна размясціць музей горада, пра значэнне свабодных эканамічных зон у Мінску і Брэсце як праобразаў і спадкаемцаў колішніх магдэбургскіх правілеяў і вольнасцяў гаварылі міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, начальнік Упраўлення культуры гарвыканкама Віктар Кураш (мэр горада, спадар Уладзімір Ярмошын з-за сваёй занятасці прысутнічаць не здолеў, але перадаў прывітанне), старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Аляксандр Міхальчанка, вядомы вучоны-геральдыст, знаўца беларускай старажытнасці, ён жа навуковы дарадца выставы Анатоль Цітоў, супрацоўніца Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, аўтар канцэпцыі выставы Ірына Зварыка. Яна і запрасіла прысутных зрабіць цікавае падарожжа па Мінску ад старажытных да нашых часоў і выдатна справілася з роллю экскурсавода.

Паглядзець на выставе ёсць на што. Ля ўваходу выстаўлена старажытная зброя. Але галоўнае не яна, а дакументы, сведкі далёкіх часоў, тых падзей і здарэнняў, а таксама чалавечых лёсаў, што адбываліся і здзяйсняліся ў Мінску. Найперш маюцца на ўвазе актавыя кнігі менскага магістрата, у якіх каштоўны пазнавальны матэрыял не толькі для гісторыкаў, але, мяркуем, і літаратараў, што пішуць пра мінулае Бацькаўшчыны. Годна прадстаўлены таксама кніжны збор з рарытэтных выданняў, сярод якога працы беларускіх, польскіх, літоўскіх і рускіх аўтараў па праблемах магдэбургскага права.

Прывілей той быў пацверджаны ў XVIII стагоддзі і цяпер захоўваецца ў Вільні. А Метрыка Вялікага княства Літоўскага, дзе зроблены запіс прывілея, таксама не ў Беларусі, а ў Маскве.

Ёсць што паглядзець у зале, дзе выстаўлены творы жывапісу і графікі, паштоўкі і фотаздымкі з фондаў музея, многія з якіх дасюль не экспанаваліся.

Разам з Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі ў выставе паўдзельнічалі Нацыянальны гістарычны архіў і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Выстава зладжана пры спрыянні Мінгарвыканкама, Рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі, Нацыянальнага музея Літвы.

Гэтую нататку хацелася б закончыць словамі з прэс-рэлізу пра значэнне магдэбургскага права для тагачасных гарадоў: "Такая сістэма развівала пачуццё індывідуальнай адказнасці за справу, стымулявала ініцыятыву, выпрацоўвала павагу да закону, ставіла дабрабыт дзяржавы ў залежнасць ад дабрабыту асобы.

Ад мінчанаў тых часоў патрабавалася асаблівая мужнасць, настойлівасць, розум, прадпрымальнасць, імкненне да свабоды, каб адстаяць і сябе, і горад, і сваё месца ў грамадстве. Мінчане баранілі сваю "плошчу свабоды" на працягу некалькіх стагоддзяў..."

Ну а больш падрабязна пра слаўную дату ў гісторыі Мінска чытайце ў артыкуле доктара гістарычных навук Георгія Штыхава.

**Я. Л.**



*Партрэты асоб, якія ўваходзілі ў мінскі магістрат, дакументы магістрата, шкатулка для пячаці.*



*Вырабы цэха металістаў.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.*



# МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА:

## ПЕРАДУМОВА САМАКІРАВАННЯ

**Георгій ШТЫХАЎ**, *доктар гістарычных навук, прафесар.*

НА МЯЖЫ Сярэдніх вякоў і Новага часу 500 гадоў назад Менск, прыняўшы права на самакіраванне па ўзору магдэбургіі, тым самым далучыўся па статусу да гарадоў еўрапейскай цывілізацыі. Магдэбургскае права — гэта адна з найбольш вядомых сістэм сярэднявечнага гарадскога права, якая склалася ў XIII стагоддзі ў нямецкім горадзе Магдэбургу. Магдэбургскае права юрыдычна замацоўвала правы і свабоды гараджан, іх права на самакіраванне.

У 1499 годзе (14 сакавіка), усяго праз 6 месяцаў пасля надання прывілея Полацку, падобны прывілей на самакіраванне па магдэбургскаму праву атрымлівае Менск. Прывілей быў дадзены ад імя вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка (1492—1505 гады), які падпісаў гэты дакумент у Вільні. Сутнасцю дадзенага права на самакіраванне было вызваленне жыхароў горада ад падсуднасці і ўлады велікакняжацкіх намеснікаў — чыноўнікаў, самаўпраўства мясцовых феадалаў, старастаў ды іншых начальнікаў.

Прывілей выдаў "Аляксандр, з Божае ласкі вялікі князь літоўскі, рускі, жамойцкі і іншых (земляў) пан і дзедзіч". У прывілейнай грамаце сказана: "Наш горад Менск з права літоўскага і рускага (маецца на ўвазе валасная сістэма кіравання), якое спачатку там было ўстаноўлена, на права нямецкае, так званае магдэбургскае, пераводзім на вечныя часы".

Кіраўніцтва горадам пераходзіла да магістрата (рады) — выбарнага адміністрацыйнага і судовага органа ў горадзе. На чале магістрата быў войт, якога прызначаў вялікі князь звычайна з буйных феадалаў. Гараджане выбіралі радцаў, членаў магістрата (рады). У Менску спачатку было 12 радцаў. Яны разам з войтам выбіралі на адзін год двух бурмістраў, "якія сумесна з войтам будуць кіраваць гараджанамі". Радцы кіраваліся ў сваёй дзейнасці нормамі права, якія потым увайшлі ў статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гадоў.

Прывілей 1499 года рэгуляваў рамесную і гандлёвую дзейнасць. Менскія купцы вывозілі лесаматэрыялы, смалу, воск, попел, футры (куніца, вавёрка, норка і інш.). Мясцовыя і "чужыя" купцы прывозілі металы (волава, медзь, латунь), шматлікія дарагія прыправы (шафран, мускат, гваздзіку), фінікі, розныя віны, нямецкае піва і іншае "пітво замежнае".

Прывілей дазваляў "у зручным месцы паставіць ратушу, пад якою мець могуць таварную краму, хлебныя клецкі і цырульню". У ратушы павінны былі захоўвацца меры вагі, аб'ёмаў, прынятыя ў горадзе, а таксама сцяг горада. Але застаецца невядомым, дзе знаходзіўся гэты будынак у пачатку XVI стагоддзя. Мураваная ратуша (замест драўлянай) была пабудавана ў пачатку XVII стагоддзя на тэрыторыі Верхняга рынку (цяпер плошча Свабоды), які стаў адміністрацыйным, гандлёвым і культурным цэнтрам горада.

Магдэбургскае права вызваляла гараджан ад падсуднасці і ўлады велікакняжацкіх ці каралеўскіх адміністратараў, гарантавала ім права ўласнасці, рэгламентавала іх эканамічную дзейнасць, спрыяла фарміраванню гарадскога саслоўя, характэрнага для феадальнага грамадства. Але частка гарадскіх зямель заставалася ўласнасцю феадалаў. Утвараліся так званыя юрыдыкі: адміністрацыйна адасобленыя часткі горада, якія знаходзіліся пад уладай феадалаў, духавенства, манастыроў, цэркваў, на жыхароў якіх не распаўсюджвалася судовая ці адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання.

Юрыдыкі ўзніклі ў выніку прымусовага перасялення залежных сялян у дамы і на ўчасткі, якія належалі феадалам у гарадах. Юрыдыкі мелі ў Менску князі Радзівілы, Саламарэцкія, Друцкія-Горскія, буйныя феадалы Корсакі. Некаторыя юрыдыкі вызваляліся велікакняжацкімі прывілеямі ад падаткаў і павіннасцей. Пашырэнне юрыдык узмацняла ўплыў феадалаў на жыццё гарадоў, перашкаджала іх эканамічнаму развіццю, саслоўнаму згуртаванню гараджан. Таму гараджане вялі барацьбу супраць юрыдыкаў.

У абставінах феадальнага наступлення на правы гараджан у Менску існавала рамесніцкая вытворчасць. Каб супрацьстаяць эканамічнаму наступленню шляхты, забяспечыць сваю манаполію на рынку, рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхі — своеасаблівыя карпарацыі па прафесіі. Цэхі наладжвалі ўзаемадапамогу сваіх членаў. Першае ўпамінанне аб арганізацыі ў горадзе цэхаў адносіцца да 1552 года. У Менску існавалі цэхі краўцоў, металістаў, ювеліраў. Унутраны лад цэхаў вызначаўся статутамі, якія рэгламентавалі вытворчасць рамесных вырабаў і іх збыт.

Звычайна разам з граматай на самакіраванне гораду даваўся герб. Мусіць, у 1499 годзе Менск таксама яго атрымаў. Аднак у час пажару ў Менскім замку прывілей згарэў. У 1591 годзе гораду дадзены пацвярджальны прывілей на магдэбургскае права, дзе гаворыцца: "Даём ім герб на гарадскую пячатку з выявай Дзевы Марыі на нябесным фоне". Выява герба змяшчалася на будынках, якія належалі магістрату, на гарадской пячатцы, на сцягах горада. Кляймом з выявай герба мецілі тавары, што вывозіліся з Менска. У 1566 годзе Менск стаў цэнтрам Менскага ваяводства і павета ў выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы. Тут засядаў з канца XVI стагоддзя вышэйшы апеляцыйны суд Вялікага княства Літоўскага, які быў галоўным трыбуналам краіны.

Наданне Менску магдэбургскага права з'явілася важнай вяхой у грамадска-палітычным развіцці горада. Але магдэбургскае права не было механічна перанесена з Цэнтральнай Еўропы ў беларускія гарады. Запазычаныя нормы права былі прыстасаваны на беларускіх землях да канкрэтных мясцовых умоў.

Гарадское самакіраванне было характэрнай рысай адміністрацыйнай сістэмы беларуска-літоўскай дзяржавы ВКЛ. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца арганізацыя ўлады паводле магдэбургскага права ў Полацку, Менску і многіх іншых беларускіх гарадах і мястэчках (звыш 70 населеных пунктаў).

Магдэбургскае права не аблягчыла ўмовы жыцця гарадскіх нізоў, аднак агульны прагрэс быў прыкметны. Прывілеі на гэта права стваралі ў беларускіх гарадах новы стымул да ўладкавання грамадскага жыцця, пашырэння гандлю, развіцця рамяства. Рамеснікі станавіліся моцнай праслойкай насельніцтва ў гарадах. Выкліканае неабходнасцю росту горада магдэбургскае права спрыяла універсалізацыі прынцыпаў гарадскога жыцця. Фарміраванне цэхавай вытворчасці, пашырэнне і ўмацаванне гандлёвых сувязей садзейнічала далейшаму працэсу фарміравання беларускай народнасці.



АСОБА Ў ВАРУНКАХ ЧАСУ

# АДДАНЫ ЗЯМЛІ І ВЕРЫ

***50 гадоў таму, на мяжы зімы з вясной, на добрай зямлі Беларусі ў сям'і смілавіцкіх татар Соф'і (з роду Ільясевічаў) і Барыса Канапацкіх нарадзіўся хлопчык. Яму далі імя ў гонар дзеда Ібрагіма Хасеневіча; на пачатку веку імама Смілавіцкай мячэці.***

**Разалія АЛЕКСАНДРОВІЧ**, *сябра Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб".*

НАША знаёмства доўжыцца амаль дзесяць гадоў. Гэты чалавек прыцягвае сваёй натуральнасцю, жыццялюбствам, ад яго ідзе спакой і трываласць, ён моцна трымаецца ў жыцці. Моц яго ў надзейных апірышчах. Яны вядомыя, але не кожны ўмее цаніць іх і берагчы. Галоўнае апірышча — яго зямля, яго Беларусь. А на ёй асабліва дарагія і любыя дзве мясціны. Першая — малая радзіма, Смілавічы, дзе жыве маці, дзе менавіта яму пакінуў у спадчыну свой дом з невялікім надзелам зямлі нябожчык дзядзька. На смілавіцкім мізары (могілках) вечным сном спачылі яго бацька і дзядыпрадзеды. Заклікае на маленне па пятніцах і байрамах (святах) вернікаў-мусульман маладзічок мячэці, пабудаванай з удзелам Ібрагіма Барысавіча. Яна самая блізкая ад Мінска, а паколькі ў сталіцы мячэці пакуль што няма (будаўніцтва неўзабаве пачнецца і таксама пры чынным старанні спадара Канапацкага), сюды па святах збіраецца шмат і аднаверцаў са сталіцы.

Мінск стаў другім горадам, які многае вызначыў у жыцці хлопца са Смілавічаў. Ён тут стаў студэнтам гістарычнага факультэта педінстытута і скончыў яго з чырвоным дыпломам, потым вучыўся ў аспірантуры і абараніў кандыдацкую дысертацыю. Тут жа (цяпер гэта Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Максіма Танка) працуе выкладчыкам кафедры гісторыі і ўжо другі год з'яўляецца дактарантам. Але не менш, чым праца, у жыцці чалавека значыць сям'я. У Мінску ў Ібрагіма Барысавіча склаўся і асабісты лёс. Склаўся як трэба, палюдску: жыве ён разам з дарагімі яго сэрцу жонкай і двума дзецьмі — дачкой Зарынай і сынам Захарам.

Ягонае захапленне гісторыяй Беларусі ва ўсе яе лепшыя і горкія часіны, калі яна была незалежнай і гордай краінай ці далучалася да іншых дзяржаў, прывяло Ібрагіма Барысавіча да галоўнага ў яго жыцці. Дзесяць гадоў таму, у свае сорак, ён, кажучы словамі любімага пісьменніка і, дарэчы, блізкага яму чалавека Янкі Брыля, зразумеў, што шлях кожнага сапраўднага інтэлігента ляжыць "праз свой народ да чалавецтва". Але ў гэтым выпадку вялікая ісціна набыла своеасаблівае, адметнае ўвасабленне: усведамляючы сябе татарынам, Ібрагім Канапацкі ніколі не забывае, дзе, на якой зямлі ён жыве, якая моцная духоўная повязь праз вякі злучыла ў адно цэлае беларусаў і тутэйшых татар. Бо разам яны змагаліся, працавалі, стваралі агульную гісторыю. І сёння беларуская культура і мова для Ібрагіма Канапацкага, як і для ўсіх нас, чые продкі пасяліліся на зямлі Беларусі шэсцьсот гадоў таму, — гэта сваё, роднае, дарагое і блізкае, адмаўленне ад чаго, а тым больш непрыняцце і ганьбаванне як здрада самім сабе, як самапрыніжэнне сваёй годнасці.

Апошнія дзесяць гадоў Ібрагім Канапацкі глыбока, паслядоўна і натхнёна займаецца вывучэннем гісторыі свайго народа, які ў навуковай літаратуры называецца "літоўскімі татарамі" ад назвы дзяржавы, куды прыйшлі нашыя продкі на добраахвотную вайсковую службу. Вялікая яго заслуга ў тым, што гістарычная праўда замацавалася ў навуковай літаратуры, яна існуе і ва ўяўленнях людзей: татары ў гісторыі гэтай зямлі не "ярмо", не заваёўнікі "манголататары", а мужныя і ўмелыя воі, чыя конніца ўдзельнічала ў пераможных бітвах войскаў Вялікага княства Літоўскага. Кніга "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць", напісаная ім у сааўтарстве з С. Думіным, стала настольнай для нашых супляменнікаў, ёю шырока карыстаюцца спецыялісты. Яго навуковая дасведчанасць грунтуецца на вывучэнні архіўных дакументаў, спецыяльнай літаратуры на беларускай, рускай, польскай мовах. А яшчэ Ібрагім Барысавіч чытае Кітабы (помнікі пісьменства нашых продкаў), створаныя арабскай графікай на старажытнай беларускай мове. Яму радасна ўслухоўвацца ў музыку беларускага слова, якую вельмі ўдала перадаюць арабскія літары. Уменне чытаць па-арабску, нават пры беднаватым слоўнікавым запасе, дае магчымасць злучыцца з вечнымі словамі Карана. Навуковая цікаўнасць да мусульманскай літаратуры напаўняецца духоўнай пранікнёнасцю. Моцная повязь свецкага і духоўнага вельмі натуральная, адно ўзаемадапаўняе і ўдасканальвае другое.

Спадар Канапацкі стаяў ля вытокаў стварэння грамадска-культурнага згуртавання "Аль-Кітаб", а зараз рэлігійная абшчына татар-мусульман Мінска і Мінскай вобласці выбрала яго сваім лідэрам. Былы віцэ-прэзідэнт "Аль-Кітаба" шмат у чым быў пачынальнікам руху, яму мы абавязаны тым, што ажывілася культурнае жыццё беларускіх татар, што яно дакументальна замацавана ў зборніках матэрыялаў навукова-практычных канферэнцый, у арганізацыі і правядзенні якіх ён бярэ самы чынны ўдзел, з'яўляючыся тут, як і ў іншых справах, завадатарам і натхняльнікам. Ніколі не забываўся ён пра нашыя на гэтай зямлі святыні — мячэці. У Навагрудку і Смілавічах ужо збіраюць яны пад сваімі мінарэтамі вернікаў і тых, хто толькі далучаецца да духоўнай спадчыны. А ён думае наперад, робіць упэўнена і неадступна захады, каб узнавіць мячэць на святым мізары ў Лоўчыцах пад Навагрудкам, каб здзейснілася наша мара — быў пабудаваны культурна-рэлігійны цэнтр у сталіцы Беларусі. І найперш яго клопат пра тых, дзеля ўдасканальвання каго як разумнейшага стварэння Усявышняга робяцца добрыя справы: ён бачыць асобнага чалавека, сустракаецца, падтрымлівае сувязі з людзьмі. Робіць гэта далікатна і разумна, заўважае кожнага ад малога дзіцяці да паважанага старога. Людзі просяць яго парады, звяртаюцца па дапамогу. Неаднойчы можна было бачыць, як душэўна размаўлялі з ім пажылыя жанчыны і юнакі-студэнты, народныя паэты Беларусі і навукоўцы з розных краін. Ён умее зразумець іншага, умее схіліць галаву і перад талентам, і перад звычайнымі людскімі дасягненнямі. Абавязкова знаходзіць час для размовы з Усявышнім і пяць разоў на дзень схіляецца перад ім у сваёй малітве. Алах надзяліў яго, як і большасць нашых продкаў, яшчэ адной мудрасцю. Не можа быць шчаслівым твой народ асобна ад усяго народа Беларусі. Жыццё беларусаў — радасці і засмучэнні — нашыя радасці і наш смутак.

Менавіта таму звяртаемся ў газету "Голас Радзімы", каб разам з беларусамі як на Бацькаўшчыне, так і за яе межамі падзяліць нашыя пачуцці, павіншаваць таго, хто лічыць за гонар называць Беларусь сваёй Радзімай, хто працуе на яе карысць, хто дбае пра шчасце на гэтай зямлі для сябе і сваіх нашчадкаў.



*На святкаванні Караван-Байрама ў Іўі. Злева направа: прэзідэнт згуртавання беларускіх татар АБУ-БЕКІР ШАБАНОВІЧ, прадстаўнік польскай суполкі, сябра Муфціята (управы) мусульманскага рэлігійнага аб'яднання Беларусі Ісмаіл ВАРАНОВІЧ, мезін (муфцій) Іўеўскай мячэці Салейман РАФАЛОВІЧ, мална (мула) Іўеўскай мячэці Ісмаіл ШАБАНОВІЧ, старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр БІЛЫК і Ібрагім КАНАПАЦКІ.*

# СТО СЯБРОЎ ВАСІЛЯ СТРУМЕНЯ



*Васіль СТРУМЕНЬ — у цэнтры. 1983 г.*

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

ЭНЕРГІІ і натхненню гэтага чалавека можна пазайздросціць. Помніцца пачатак ліпеня 1982 года. Васіль Струмень (сапраўднае імя і прозвішча Аляксандр Лебедзеў) толькі што прыехаў у Ліду са сваіх Сарнаў. Перш-наперш зайшоў у рэдакцыю мясцовай газеты "Уперад". Журналісты якраз збіраліся ехаць у Вязынку на свята паэзіі, прысвечанае сотым угодкам з дня нараджэння Янкі Купалы.

— Будзь ласка, — звярнуўся Аляксандр Мікалаевіч на ўкраінскі манер, — вазьміце на гэты фестын і мяне.

З прыемнасцю згадзіліся. У зафрахтаваным рэдакцыяй аўтобусе часта гучаў зычлівы голас Аляксандра Мікалаевіча: распытваў пра знаёмых паэтаў і журналістаў, расказваў пра цікавыя выпадкі, дэкламаваў вершы ці напяваў вясёлую песню. А яму, заўважу, ішоў тады 69-ты год.

І такім Васіль Струмень быў заўсёды. Часта наведваючы Ліду, ніколі не абмінаў рэдакцыю. А яшчэ спяшаўся ў краязнаўчы музей, у гарадскі і раённы Саветы, у кнігарню і да сяброў. А іх А. Лебедзеў меў не толькі ў Лідзе, а і ў навакольных гарадах і вёсках. З лідчанінам Ісакам Карабельнікам любіў прыгадаць падпольную барацьбу камуністаў Заходняй Беларусі ў Лідскім павеце, з Міхаілам Петрыкевічам у Дзятлаве радаваўся новым экспанатам Музея народнай славы, а з Іванам Івашэвічам з вёскі Зачэпічы, сябрам дзяцінства і таварышам па падпольным змаганні, дзяліўся літаратурнымі навінамі.

ДАРЭЧЫ будзе ўспомніць, што наш вядомы зямляк і пісьменнік Уладзімір Калеснік трапна назваў Зачэпічы "гняздом паэтаў". У 30-х гадах тут плённа тварылі Іван Івашэвіч (псеўданім Пятрусь Граніт), Іван Пышко (Герасім Прамень) і Васіль Струмень. І кожны з іх актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым руху. Першыя допыты і здзекі ў беліцкім паліцэйскім пастарунку Аляксандр Лебедзеў зведаў у сакавіку 1930 года, за два тыдні да свайго 16-годдзя. Па даручэнню Івана Пышко, тагачаснага сакратара ячэйкі КПЗБ, Алесь прымацаваў на адным з самых высокіх дрэваў вёскі чырвоны сцяг. Так была адзначана чарговая гадавіна Парыжскай камуны. За гэта камсамолец і паплаціўся. Добра, што пасля тыднёвага ўтрымання пад арыштам юнака аддалі на парукі айчыма і маці.

У 30-х гадах малады Васіль Струмень меў яшчэ нямала сустрэч з польскай паліцыяй. У той жа Беліцы і ў Бярозаўцы, дзе працаваў на гуце шкла, у павятовым цэнтры Ліда. А вызваленчыя ідэі ў той час былі моцныя. Нават на вечарынках, калі дзяўчаты ў згаданых Зачэпічах збіраліся зімовымі вечарамі прасці кудзелю, не абыходзілася без палітыкі. Моладзь любіла спяваць песні "Адвеку мы спалі", "Варшавянка", "Мы — кавалі" і іншыя. Па ініцыятыве актывістаў Таварыства беларускай школы і Сялянска-работніцкай грамады ў вёсках ставіліся п'есы на беларускай мове.

У 1934 годзе малады паэт зведаў сваю першую творчую радасць: у прагрэсіўным часопісе сатыры і гумару "Асва" быў надрукаваны яго верш. Затым творы В. Струменя з'яўляліся ў іншых выданнях. У паэтычных радках расказвалася пра боль затузанага бедамі беларуса, яго імкненне да лепшага жыцця.

Восенню 1936 года па рашэнню падпольнага цэнтра Алесь нелегальна адпраўляецца ў СССР, каб там павучыцца і зноў вярнуцца ў родны край, а магчыма паехаць у далёкую Іспанію, дзе ішла грамадзянская вайна. Але задума сарвалася: паблізу польска-савецкай граніцы юнака затрымалі і пасадзілі ў Вілейскую турму. Затым улады спрабавалі перавыхаваць бунтара ў 77 лідскім палку пяхоты Войска Польскага. Ды з гэтага нічога не атрымалася. Пасля салдацкай службы, у канцы 1938 года, Васіль Струмень падаўся на Валынь, куды перабраліся, купіўшы невялікі надзел зямлі, яго айчым і маці.

НА НОВЫМ месцы Аляксандр Мікалаевіч з радасцю сустрэў уз'яднанне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў адзіныя нацыянальныя дзяржавы. Потым Вялікая Айчынная, пасляваеннае аднаўленне, чарговыя пяцігодкі. Увесь гэты час Васіль Струмень разам з простым людам. Мужна ваяваў супраць фашыстаў, многія гады працаваў настаўнікам. І, вядома, пісаў. Вершы, успаміны аб пражытым і перажытым, якія друкаваліся ў многіх выданнях Украіны і Беларусі. Нездарма ён у першай нашай энцыклапедыі названы беларускім і ўкраінскім паэтам.

Жывучы ў блізкім замежжы, Аляксандр Мікалаевіч праяўляў незвычайную цікавасць да роднай яму Беларусі. Часта прыязджаў у Мінск, Ліду, Гродна, наведваў дарагія яму з юнацкіх гадоў вёскі. Ахвотна выступаў як у нас, так і на Валыні, у школах. Пра яго вялікую прагу да чалавечых стасункаў можна меркаваць па перапісцы, якая падтрымлівалася больш чым са ста блізкімі яму людзьмі. Вельмі рады быў В. Струмень, напрыклад, увазе да сябе з боку Адама Мальдзіса. Добрыя адносіны меў з Іванам Шамякіным, Максімам Лужаніным, іншымі пісьменнікамі.

ВАСІЛЯ Струменя лічыў я сваім старэйшым братам. Незабыўныя паездкі ў Сарны ў сувязі з 75-годдзем паэта, калі я ўручыў яму прывітальны адрас рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда", крыху пазней — з маёй унучкай Насцяй. Шаноўны чалавек знаёміў нас з выдатнымі мясцінамі Роўна і старажытнай калыскі славян — Астрогай, іншымі гарадамі і мястэчкамі, з замілаваннем расказваў пра жыццё беларусаў на Ровеншчыне.

Восенню 1992 года ў чарговым пісьме да А. Лебедзева я папрасіў яго даведацца пра стан магілы пахаванага ў Здалбунаве гаротнага настаўніка-асветніка Кандрата Лейкі, які родам са Слонімшчыны, дазнацца, ці застаўся там хто са сваякоў нашага земляка. Гэты ліст Васіль Струмень чытаў на бальнічным ложку. А 25 кастрычніка таго ж года паэт памёр у сарненскім шпіталі. Адказала на мой ліст Тамара Данілаўна, удава і верная спадарожніца Аляксандра Лебедзева.

Шматлікія сябры Васіля Струменя берагуць і ўшаноўваюць на Гродзеншчыне памяць пра паэта і цудоўнага чалавека. Апошнім часам яго ўспаміны апублікаваны ў кнізе пра Ігната Дварчаніна, цёплыя радкі пра А. Лебедзева і некалькі яго вершаў змешчаны ў зборніку "На зямлі Дзятлаўскай". А 1 красавіка грамадскасць адзначыць 85-я ўгодкі з дня нараджэння незабыўнага Аляксандра Мікалаевіча.

# КАЛЯНДАР СВЯ
# НАРОДАЎ













## СТУДЗЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | П | | РАМАЗАН(т) |
| 2 | С | ГНАТА(у) | |
| 3 | Н | | |
| 4 | П | | |
| 5 | А | | |
| 6 | С | КУЦЦЯ(сп) | |
| 7 | Ч | РАСТВО(сп), КАЛЯДЫ(сп) | |
| 8 | П | | |
| 9 | С | | |
| 10 | Н | | |
| 11 | П | | |
| 12 | А | | |
| 13 | С | ШЧОДРЫК(сп), КОНІКІ(бу), МЕЛАНКІ(у) | |
| 14 | Ч | ВАСІЛЛЕ(сп) | |
| 15 | П | | |
| 16 | С | | |
| 17 | Н | БАБІНЫ(у) | |
| 18 | П | ГАЛОДНАЯ КУЦЦЯ(сп) | |
| 19 | А | ВАДОХРЫШЧА(сп), БАЙРАМ(т) | БАЙРАМ(т) |
| 20 | С | | |
| 21 | Ч | | |
| 22 | П | | |
| 23 | С | | |
| 24 | Н | | |
| 25 | П | ТАЦЦЯНЫ(р) | |
| 26 | А | | |
| 27 | С | | |
| 28 | Ч | ЧАРАДЗЕІ(у) | |
| 29 | П | | |
| 30 | С | | |
| 31 | Н | ГУСЁЎНІК(б) | |

## ЛЮТЫ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | П | ТУ-БІ-ШВАТ(я) |
| 2 | А | ГРАМНІЦЫ(ск) |
| 3 | С | |
| 4 | Ч | |
| 5 | П | |
| 6 | С | АКСІННЯ(сп) |
| 7 | Н | |
| 8 | П | |
| 9 | А | |
| 10 | С | |
| 11 | Ч | |
| 12 | П | ТРЫ СВЯЦІЦЕЛІ(сп) |
| 13 | С | ДЗЯДЫ(б) |
| 14 | Н | ГРАМНІЧНЫ БАЦЬКА(сп) |
| 15 | П | ГРАМНІЦЫ(сп) |
| 16 | А | |
| 17 | С | ПАПЕЛЕЦ(ск) |
| 18 | Ч | КАЛОДКА(б) |
| 19 | П | ВАЎКАЛАКІ(б) |
| 20 | С | |
| 21 | Н | ЗАГАВІНЫ(сп), ГУКАННЕ ВЯСНЫ(б) |
| 22 | П | ПАЛАСКАЗУБ(б) |
| 23 | А | |
| 24 | С | УЛАССЕ(сп), МАЦЕЙ(ск) |
| 25 | Ч | |
| 26 | П | |
| 27 | С | СПОВЕДЗЬ ДЗЕЖКІ(б) |
| 28 | Н | |

## САКАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | П | ПОСТ ЭСТЭР(я) | |
| 2 | А | ПУРЫМ(я) | |
| 3 | С | | |
| 4 | Ч | | |
| 5 | П | | |
| 6 | С | ВЕСНАГРЭЯ(у) | |
| 7 | Н | | |
| 8 | П | | |
| 9 | А | ПАЎРАЦЕННЕ(сп) | |
| 10 | С | | |
| 11 | Ч | | |
| 12 | П | | |
| 13 | С | | |
| 14 | Н | АЎДОЦЦЯ-ВЯСНЯНКА(сп) | |
| 15 | П | | |
| 16 | А | | |
| 17 | С | | |
| 18 | Ч | | |
| 19 | П | | |
| 20 | С | | |
| 21 | Н | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 22 | П | САРАКІ(сп) | |
| 23 | А | | |
| 24 | С | ЗВЕСТАВАННЕ(ск) | |
| 25 | Ч | РЫГОР(б) | |
| 26 | П | | |
| 27 | С | | |
| 28 | Н | КУРБАН-БАЙРАМ(т), ВЕРБНІЦА(ск) | КУРБАН-БАЙРАМ(т) |
| 29 | П | | |
| 30 | А | ЦЁПЛЫ АЛЯКСЕЙ(сп) | |
| 31 | С | ПЕРШЫ СЕДЭР(я) | |



## ЛІПЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Ч | ПОСТ 17-га ТАМУЗА(я) | ПЯТРОЎКА(сп) |
| 2 | П | | |
| 3 | С | | |
| 4 | Н | | |
| 5 | П | | |
| 6 | А | КУПАЛЛЕ(сп) | |
| 7 | С | ІВАН КУПАЛЬНЫ(сп) | |
| 8 | Ч | | |
| 9 | П | ПОСТ 9-га АВА(я) | |
| 10 | С | СЕНАГНОЙ(сп) | |
| 11 | Н | | |
| 12 | П | ПЯТРО(сп) | |
| 13 | А | ПАЎЛЮК-ТАЛАКА(б) | |
| 14 | С | КУЗЬМА-ДЗЯМ'ЯН(сп) | |
| 15 | Ч | | |
| 16 | П | | |
| 17 | С | | |
| 18 | Н | АНДРЭЙ-НАЛІВА(б) | |
| 19 | П | | |
| 20 | А | | |
| 21 | С | ГРАДАВАЯ(б) | |
| 22 | Ч | | |
| 23 | П | | |
| 24 | С | | |
| 25 | Н | | |
| 26 | П | | |
| 27 | А | | |
| 28 | С | | |
| 29 | Ч | | |
| 30 | П | СЕРПАВІЦА(б) | |
| 31 | С | ІВАН-ПАКУТНІК(у) | |

## ЖНІВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Н | МАКРЫНЫ(сп) | |
| 2 | П | ІЛЛЯ(сп), ЗАЖЫНКІ(б) | |
| 3 | А | | |
| 4 | С | | |
| 5 | Ч | | |
| 6 | П | ХЛЕБ-БАРЫС(б), ГЛЕБА І БАРЫСА(сп) | |
| 7 | С | ГАННЫ(сп) | |
| 8 | Н | | |
| 9 | П | ПАЛІКОПЫ(сп) | |
| 10 | А | | |
| 11 | С | | |
| 12 | Ч | СІЛА(сп) | |
| 13 | П | СПАСАЎСКІЯ ЗАПУСКІ(сп) | |
| 14 | С | МАКАВЕЙ(сп) | СПАСАЎКА(сп) |
| 15 | Н | | |
| 16 | П | ВІХРАВЕЙ(б) | |
| 17 | А | | |
| 18 | С | | |
| 19 | Ч | ЯБЛЫЧНЫ СПАС(сп) | |
| 20 | П | | |
| 21 | С | | |
| 22 | Н | | |
| 23 | П | | |
| 24 | А | | |
| 25 | С | АГНЮ(у) | |
| 26 | Ч | | |
| 27 | П | | |
| 28 | С | ПРАЧЫСТА(сп) | |
| 29 | Н | ХЛЕБНЫ СПАС(сп), ДАЖЫНКІ(б) | |
| 30 | П | | |
| 31 | А | ГАРАБІНАВА НОЧ(б) | |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | С | | |
| 2 | Ч | | |
| 3 | П | | |
| 4 | С | ПАВУЦІННІК(у) | |
| 5 | Н | ЛУПА - ЖЫТА КУПА(б), ВАЎКІ(у) | |
| 6 | П | | |
| 7 | А | | |
| 8 | С | | |
| 9 | Ч | | |
| 10 | П | | |
| 11 | С | РОШ-А-ШАНА 5760(я) | |
| 12 | Н | | |
| 13 | П | ЖАНІЦЬБА КОМІНА(б) | |
| 14 | А | СЫМОН-СТОЎПНІК(сп) | |
| 15 | С | | |
| 16 | Ч | | |
| 17 | П | | |
| 18 | С | | |
| 19 | Н | ЦУДЫ(сп) | |
| 20 | П | ЙОМ-КІПУР(я) | |
| 21 | А | БАГАЧ, ЗАСІДКІ(б), АСЯНІНЫ(сп) | |
| 22 | С | | |
| 23 | Ч | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 24 | П | | |
| 25 | С | СУККОТ(я) | СУККОТ(я) |
| 26 | Н | | |
| 27 | П | УЗЬВІЖАННЕ(сп) | |
| 28 | А | | |
| 29 | С | | |
| 30 | Ч | СВЯТА ІЛЬНА(л) | |

Умоўныя скарачэнні: б - святы беларусаў, л - святы літоўцаў, у - святы ўкраінцаў, ск - святы каталікоў і немцаў, сп - святы праваслаўных і цыган, т - святы татар, я - святы яўрэяў.



РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР
220030, г.Мінск, вул.Я.Купалы, 21. Тэл.: (017) 229-21-34, 276-80-62



# ЯТ І АБРАДАЎ БЕЛАРУСІ













## КРАСАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Ч | | ПЕСАХ(я) |
| 2 | П | | |
| 3 | С | | |
| 4 | Н | УСЯНОЧНАЯ(ск), ВЕРБНІЦА(сп) | |
| 5 | П | | |
| 6 | А | КАМАЕДЗІЦА(б) | |
| 7 | С | ЗВЕСТАВАННЕ(сп) | |
| 8 | Ч | ЖЫВЫ ЧАЦВЕР(у) | |
| 9 | П | | |
| 10 | С | | |
| 11 | Н | ПАСХА(сп), ВЯЛІКДЗЕНЬ(б) | |
| 12 | П | | |
| 13 | А | | |
| 14 | С | ДАМАВІК(б) | |
| 15 | Ч | | |
| 16 | П | | |
| 17 | С | | |
| 18 | Н | ХІДЖРЫ 1420(т) | |
| 19 | П | | |
| 20 | А | РАДУНІЦА(р) | |
| 21 | С | | |
| 22 | Ч | | |
| 23 | П | | |
| 24 | С | | |
| 25 | Н | | |
| 26 | П | | |
| 27 | А | АШУРА(т) | |
| 28 | С | | |
| 29 | Ч | | |
| 30 | П | ЗОСІМ-ПЧАЛЯР(сп) | |

## ТРАВЕНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | |
| 2 | Н | МІРАНОСІЦЫ(сп) |
| 3 | П | |
| 4 | А | ЛАГ-БА-ОМЕР(я) |
| 5 | С | ЛЯЛЬНІК(б), ЛУКІ(у) |
| 6 | Ч | ЮР'Е(сп) |
| 7 | П | |
| 8 | С | |
| 9 | Н | |
| 10 | П | ЯРЫЛАВІЦА(б) |
| 11 | А | |
| 12 | С | |
| 13 | Ч | УШЭСЦЕ(ск) |
| 14 | П | |
| 15 | С | БАРЫСА І ГЛЕБА(сп), САЛАЎІНЫ(у) |
| 16 | Н | |
| 17 | П | |
| 18 | А | РАСАДНІЦА(сп) |
| 19 | С | |
| 20 | Ч | УШЭСЦЕ(сп), ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ(б) |
| 21 | П | ШАВУОТ(я) |
| 22 | С | МІКОЛА(сп) |
| 23 | Н | ЗЯЛЁНЫЯ СВЯТКІ(ск) |
| 24 | П | |
| 25 | А | |
| 26 | С | |
| 27 | Ч | БОЖАЕ ЦЕЛА(ск), СЯМІК(б) |
| 28 | П | ЦЕПЛАГРЭЙ(у) |
| 29 | С | ДЗЯДЫ(сп) |
| 30 | Н | СЕМУХА(сп), КУСТА(б) |
| 31 | П | РУСАЛІІ(сп) |

## ЧЭРВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | А | | |
| 2 | С | ГРАДАВАЯ(б) | |
| 3 | Ч | НАЎСКАЯ ТРОЙЦА(сп) | |
| 4 | П | | |
| 5 | С | ПРАДСЛАВА(б) | |
| 6 | Н | РОЗЫГРЫ(сп) | |
| 7 | П | | |
| 8 | А | | |
| 9 | С | | |
| 10 | Ч | | |
| 11 | П | ДЗЕВЯТУХА(б) | |
| 12 | С | | |
| 13 | Н | | |
| 14 | П | | |
| 15 | А | | |
| 16 | С | | |
| 17 | Ч | | |
| 18 | П | ПЯЦЁНКА(б) | |
| 19 | С | | |
| 20 | Н | СОНЦАСТАЯННЕ | |
| 21 | П | | |
| 22 | А | | |
| 23 | С | | |
| 24 | Ч | КУПАЛА(ск) | |
| 25 | П | РАСЫ(л) | |
| 26 | С | АКУЛІНА(сп) | |
| 27 | Н | МЯЎЛЮД(т) | |
| 28 | П | | |
| 29 | А | ЗАПУСТЫ(сп) | ПЯТРОЎКА(сп) |
| 30 | С | | |



## КАСТРЫЧНІК

| | | |
|---|---|---|
| П | ЖУРАВЫ(у) | СУККОТ(я) |
| С | | |
| Н | | |
| П | | |
| А | | |
| С | | |
| Ч | СІМХАТ ТОРА(я) | |
| П | | |
| С | ШАПТУН(б) | |
| Н | САЎКІ(б) | |
| П | | |
| А | | |
| С | | |
| Ч | ПАКРОЎ(сп) | |
| П | | |
| С | | |
| Н | | |
| П | | |
| А | | |
| С | СЯРГЕЯ(сп) | |
| Ч | | |
| П | | |
| С | | |
| Н | | |
| П | МЛЫНАРЫ(б) | |
| А | | |
| С | | |
| Ч | БАЛАЦІХА(у) | |
| П | | |
| С | ПАКЛОНЫ(сп) | |
| Н | ЛУКАША(сп) | |

## ЛІСТАПАД

| | | |
|---|---|---|
| 1 | П | МІРУСЮЮ ДЗЕНА(л) |
| 2 | А | ДУХАЎ ДЗЕНЬ(п) |
| 3 | С | |
| 4 | Ч | |
| 5 | П | |
| 6 | С | ДЗЯДЫ(сп) |
| 7 | Н | |
| 8 | П | ЗЬМІЦЕР(р) |
| 9 | А | |
| 10 | С | ПАРАСКІ(сп) |
| 11 | Ч | |
| 12 | П | ПРАЛЛІ(б) |
| 13 | С | |
| 14 | Н | КУЗЬМІНКІ(сп) |
| 15 | П | |
| 16 | А | |
| 17 | С | |
| 18 | Ч | |
| 19 | П | ЛЕДАСТАЎ(у) |
| 20 | С | АСЯНІНЫ(б) |
| 21 | Н | МІХАЙЛА(сп) |
| 22 | П | |
| 23 | А | |
| 24 | С | |
| 25 | Ч | |
| 26 | П | |
| 27 | С | ПІЛІПАЎСКІЯ ДЗЯДЫ(б) |
| 28 | Н | ЗАПУСКІ-АДВЕНТ, ПІЛІПАЎКА(сп) |
| 29 | П | |
| 30 | А | |

## СНЕЖАНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | С | | |
| 2 | Ч | | |
| 3 | П | | |
| 4 | С | ХАНУКА(я), УВЯДЗЕННЕ(сп) | ХАНУКА(я) |
| 5 | Н | | |
| 6 | П | ВАРАЖБІТ(сп) | |
| 7 | А | | |
| 8 | С | | |
| 9 | Ч | ЮР'Е(сп) | |
| 10 | П | | |
| 11 | С | | |
| 12 | Н | ПАРАМОНА(у) | РАМАЗАН(т) |
| 13 | П | ДЗЯВОЧЫЯ ВАРОЖБЫ(б) | |
| 14 | А | НАВУМ-НАСТАЎНІК(сп) | |
| 15 | С | | |
| 16 | Ч | | |
| 17 | П | БАРБАРЫ(сп) | |
| 18 | С | САВЫ(сп) | |
| 19 | Н | МІКОЛА(сп) | |
| 20 | П | | |
| 21 | А | СОНЦАВАРОТ | |
| 22 | С | | |
| 23 | Ч | | |
| 24 | П | СВЯТЫ ВЕЧАР(ск) | |
| 25 | С | РАСТВО(ск), ШОПКА(п), БАТЛЕІ(б) | |
| 26 | Н | | |
| 27 | П | | |
| 28 | А | | |
| 29 | С | | |
| 30 | Ч | | |
| 31 | П | НОВЫ ГОД, СІЛЬВЕСТР | |

**БЕЛАРУСКІ САЮЗ ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ**
Аўтар *Васіль Ліцьвінка*
220050, г.Мінск, пр.Ф.Скарыны, 12-62
Тэл.: (017) 2-276-276



**МІЖНАРОДНЫ ЦЭНТР КУЛЬТУРЫ КНІГІ**
Мастак *В.Р.Мішчанка*
Выцінанкі мастака *Н.Сакаловай-Кубай*
Камп'ютарны дізайн *В.Я.Нога*
220600, г.Мінск, пр.Машэрава, 11
Тэл.: (017) 223-89-40, 242-68-13

**ВЕСТКІ З СУПОЛАК**

# БЕЛАРУСЫ Ў ГОРАДЗЕ АТАМШЧЫКАЎ



*Алег ДАВІДЗЮК назапашвае відэаматэрыял для будучых перадач.*

АДНЫМ з першых, хто адгукнуўся на нашу прапанову засведчыць атрыманне "Голасу Радзімы", быў Алег Давідзюк, каардынатар Беларускага культурнага цэнтра КРОК. У сакавіку мне ўдалося пабываць у Літве, у горадзе літоўскіх атамшчыкаў Вісагінасе. Менавіта тут 4 гады таму быў створаны Беларускі культурны цэнтр КРОК. Прыемна было пазнаёміцца з яго кіраўніком, чалавекам неардынарным, які не толькі не забывае свае карані, але літаральна ўвесь вольны час аддае справе прапаганды беларускасці.

Алег Аляксандравіч нарадзіўся ў Камянецкім раёне. З гэтай жа мясцовасці і яго жонка. Але прафесія закінула героя майго аповеду ў Літву. Такім чынам, ён ужо пятнаццаць гадоў жыве ў Вісагінасе, зараз працуе старшым майстрам на Ігналінскай атамнай электрастанцыі.

Ідэя адкрыць культурны цэнтр з'явілася ў пачатку 90-х гадоў. За межамі Радзімы без беларускага асяроддзя Давідзюк лічыў жыццё не зусім паўнацэнным. Спачатку з'явіліся нясмелыя памкненні, але зерне было кінута ў добрую глебу. На сённяшні дзень у Вісагінасе пражываюць амаль дзесяць працэнтаў беларусаў: прыкладна 3 тысячы на 33-тысячны горад. Таму прапанова стварыць беларускую суполку была горача падтрымана суайчыннікамі. Неўзабаве культурны цэнтр атрымаў сваё памяшканне. Алег Давідзюк сцвярджае, што толькі яму вядома, як яно "прабівалася", і адначасова ганарыцца, што такіх "плошчаў" не маюць больш ніякія суполкі. Ён задаволены: людзям ёсць куды прыйсці пагаманіць, паспяваць. Больш таго, удалося так зрабіць, што цяпер гэтае памяшканне прыносіць яшчэ і пэўныя грашовыя сродкі "крокаўцам", без чаго, зразумела, немагчымая ніякая дзейнасць.

Разгарнуліся беларускія актывісты даволі актыўна. Набылі відэаапаратуру, мантажны стол, у выніку чаго тры гады таму па мясцоваму тэлебачанню ўпершыню выйшла перадача культурнага цэнтра. Потым было яшчэ некалькі дзесяткаў эфірных выхадаў. Такім чынам, беларуская мова пачала гучаць у Вісагінасе не толькі ў памяшканні цэнтра, але і з экрана тэлевізара. Праўда, сёння, як кажа А. Давідзюк, з'явіліся пэўныя праблемы, і падрыхтоўка перадач прыпынілася. Але ён верыць, што цяжкасці часовыя.

Актыў культурнага цэнтра складае 40—50 чалавек. З іх складу створаны два мастацкія калектывы, якія час ад часу выступаюць на мясцовых святах і выязджаюць за межы горада. У рускіх школах горада пры падтрымцы членаў культурнага цэнтра створаны тры беларускамоўныя класы. Як кажа Давідзюк, з настаўнікамі праблем няма.

Каардынатар культурнага цэнтра ў размове са мной падкрэсліў, што адчувальнае садзейнічанне КРОКУ аказваюць гарадскія ўлады. Мэрыя Вісагінаса вельмі прыязна ставіцца да дзейнасці беларускай суполкі.

Прыходзіць дапамога і з Бацькаўшчыны. Напрыклад, Дзяржаўны акадэмічны хор імя Цітовіча, будучы на гастролях у Вісагінасе, падарыў актывістам цэнтра некалькі канцэртных нацыянальных касцюмаў. Такім чынам, у мясцовых беларусаў ёсць добрая аснова для таго, каб захоўваць беларускія традыцыі сярод суайчыннікаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# З ДУМКАЙ ПРА БЕЛАРУСЬ

Як многа значыць для кожнага чалавека слова Радзіма! Асабліва, калі апынешся ўдалечыні ад родных мясцін.

Для нас Радзіма — гэта прыгажосць нашых беларускіх лясоў, рэк і азёр, сярод якіх прайшлі дзяцінства і юнацтва, дзе засталіся самыя блізкія нам людзі.

Пасля распаду Савецкага Саюза беларусы, што жывуць на тэрыторыі Украіны, як і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, адносяцца да нацыянальных меншасцяў.

6 сакавіка 1996 года было заснавана Харкаўскае рэгіянальнае нацыянальна-культурнае таварыства беларусаў "Белая Русь". Тры гады таварыству. Многа гэта ці мала? Цяжка сказаць. Галоўны здабытак — створаны калектыў аднадумцаў. Таму падтрыманне нацыянальных традыцый і культуры, аказанне ўзаемадапамогі з'яўляецца для нас асноўным. Заўсёды разам бываем і ў дні святаў.

Але яшчэ шмат у нас ёсць праблем. Сярод іх такія, як адсутнасць памяшкання, недахоп праўдзівай інфармацыі аб становішчы ў Рэспубліцы Беларусь. Няма кніг на беларускай мове. Аб фінансавым становішчы і гаварыць няма чаго: сярод нас ёсць адзінокія пенсіянеры і хворы. Ім зараз асабліва цяжка.

У газеце "Голас Радзімы" № 6 за 1999 год у артыкуле "Беларусы ў любой краіне свету павінны адчуваць цяпло Радзімы", з гутаркі Юрыя Ляшкевіча са старшынёй Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандрам Білыкам, даведаліся аб працы, якую праводзіць гэты камітэт з беларусамі, што жывуць за межамі Айчыны.

Хочацца, каб беларусы, якія жывуць у Харкаўскай вобласці, таксама бралі ўдзел ва ўсіх праграмах і планах, якія ажыццяўляе камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

14 лютага гэтага года адбылася канферэнцыя таварыства "Белая Русь". Выбрана новае праўленне ў складзе: В. Астаповіч, М. Белянкоў, Л. Кобанец, Т. Ліціна (старшыня праўлення), К. Пашкевіч, У. Радзіённік, Н. Самуйленка, Т. Семянюк, В. Хартановіч.

Прэзідэнтам таварыства застаўся В. Самуйленка.

Нягледзячы на ўсе праблемы, нацыянальна-культурнае таварыства "Белая Русь" працягвае жыць.

Хоць знаходзімся далёка ад сваёй Радзімы, мы разам з усімі беларусамі свету будзем мацаваць беларускасць і спрыяць павышэнню аўтарытэту Рэспублікі Беларусь у свеце.

**Васіль АСТАПОВІЧ.**

**P.S.** Дарагая рэдакцыя! Харкаўскае таварыства беларусаў "Белая Русь" жадае вам далейшых поспехаў у вашай вельмі патрэбнай працы для ўсіх беларусаў, якія жывуць за межамі сваёй Радзімы.

Для многіх з нас ваша газета з'яўляецца адзіным сродкам інфармацыі аб жыцці ў Рэспубліцы Беларусь.

За ўсё гэта — вялікае дзякуй!

З павагай

члены праўлення таварыства "Белая Русь".

Харкаў, Украіна.

* * *

Дарагія сябры! Вялікае дзякуй што вы пасылаеце нам газету. З цікавасцю чытаем кожны нумар, бо ваша газета — адзіная крыніца інфармацыі аб жыцці нашай роднай Беларусі і беларускага замежжа. Мы вельмі зацікаўлены, каб вы дасылалі нам газету і ў далейшым.

Шчыра жадаем усім супрацоўнікам вашай газеты моцнага здароўя, вялікіх творчых поспехаў і асабістага шчасця заўжды і навек.

Старшыня рады культурнага асяродка "Беларусь"

**П. АТРУШКЕВІЧ.**

Прэзідэнт АВЗ БСГА "Казахстан"

**Я. ІВАНОЎ.**

г. Алматы.

## АБ'ЯДНАЛІСЯ БЕЛАРУСЫ МУРМАНСКА

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя аб'яднання беларусаў Мурманскай вобласці. Зацверджаны статут аб'яднання, абрана праўленне.

Стварэнне аб'яднання беларусаў у нашым паўночным краі — не выпадковая з'ява. Мурманская вобласць займае сёмае месца сярод 89 расійскіх рэгіёнаў па колькасці нашых землякоў, якія жывуць тут. Нас на Кольскім паўвостраве, па апошніх даных, 38 789 чалавек. Наперадзе па колькасці беларусаў толькі Санкт-Пецярбург (93 тысячы), Калінінградская вобласць (74 тысячы), Масква і Карэлія (па 56 тысяч) і Цюменская вобласць (49 тысяч). У працэнтных жа адносінах да агульнага насельніцтва рэгіёна Кольскі паўвостраў на трэцім месцы пасля Калінінградскай вобласці (8 працэнтаў) і Карэліі (7 працэнтаў). У нас гэты паказчык складае 3,3 працэнта.

Кольскі паўвостраў ведае і захоўвае ў сваёй памяці імёны многіх таленавітых яго даследчыкаў і падзвіжнікаў, чыёй радзімай была Беларусь. Гэта камандуючы Паўночным Флотам у 1938—1940 гадах адмірал Валянцін Дрозд і начальнік Паўночнага марскога шляху Ота Шміт, пісьменнікі Дзмітрый Кавалёў і Іван Шамякін, камандзір марскіх пехацінцаў Аляксандр Юневіч і камандзір аднаго з палкоў Палярнай дывізіі Герой Савецкага Саюза Сямён Азараў, якія абаранялі Мурманск ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Многія праславілі паўночны край у мірны час, некалькі нашых землякоў сталі Героямі Савецкага Саюза і Расіі на Паўночным Флоце.

У 60-я гады юнакі і дзяўчаты з нашай рэспублікі будавалі на Кольскім паўвостраве разам са сваімі равеснікамі з іншых рэгіёнаў краіны Жданаўскі, Аленягорскі, Лавазёрскі, Каўдорскі горна-ўзбагачальныя камбінаты, узводзілі новыя магутнасці камбіната "Апатыт", новыя гарады Запалярны, Аленягорск, Апатыты, Каўдор. Многія з іх жывуць тут і па сённяшні дзень.

У новага аб'яднання вялікія планы.

**Станіслаў ДАШЧЫНСКІ.**

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

* * *

Паважаная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"! Вялікае вам дзякуй, што было апублікавана маё віншаванне газеце.

Атрымліваю я "Голас Радзімы" рэгулярна, пошта, вядома, працуе пакуль не на належным узроўні, газеты прыходзяць на 6—10 дзень пасля іх адпраўкі з Мінска.

Што можна сказаць аб газеце? Яна вельмі змястоўная, асабліва ў гістарычным плане. Я атрымліваю "Голас Радзімы" недзе з 1991 года. І за гэты час даведаўся столькі новага, дагэтуль невядомага аб гісторыі Беларусі: аб нашых выдатных земляках, аб гісторыі ўзнікнення гарадоў і вёсак Беларусі. Праўда, хацелася б, каб газета ўсё ж больш асвятляла жыццё рэспублікі, беларускага народа на даным этапе, г. зн. жыццё сённяшняе, таму што для мяне, ды напэўна і іншых землякоў, гэта важна, таму што ні радыё, ні тэлебачанне аб'ектыўную інфармацыю не даюць, паказваюць у скажоным выглядзе, прадузята. А ведаць аб жыцці ў Беларусі вельмі хочацца, і як мага больш. Пажадана на старонках газеты часцей друкаваць інтэрв'ю з сучаснымі палітыкамі, эканамістамі, работнікамі кіно і тэатра, паэтамі, пісьменнікамі і іншымі славутымі людзьмі.

Вы высылаеце мне два экземпляры газеты. Адну я пакідаю дома, другую перадаю ў гарадскую бібліятэку. У Чарнаўцах я не знайшоў беларускую грамаду, аб існаванні яе тут ніхто чамусьці не ведае. Калі ў вас ёсць нейкія даныя, то паведаміце мне, калі гэта будзе вам няцяжка. Ці патрэбна мне газета "Голас Радзімы"? Вядома, патрэбна, гэта адзіная крыніца, з якой мы чэрпаем весткі аб жыцці Беларусі, яе мінулым.

Яшчэ раз вялікая ўдзячнасць за вельмі добрую газету.

З павагай

**Фёдар СІНЮК.**

Чарнаўцы, Украіна.

* * *

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Я вырашыў напісаць вам кароценькі ліст і сказаць, што 15 сакавіка споўнілася мне 75 год. "Голас Радзімы" чытаю 40 год. Пачаў атрымліваць газету ад Бялькевіча, калі ён быў сакратаром таварыства "Радзіма". Я тады пабойваўся паказваць газету знаёмым, бо там друкаваліся не зусім прыемныя артыкулы пра беларускую эміграцыю, якая апынулася ў заходніх краінах.

З таварыствам "Радзіма" эміграцыя ніякіх кантактаў не мела, і такая сітуацыя праіснавала да 1987 года, пакуль не ўзначаліў беларускую групу спевакоў Аркадзь Русецкі. Ён патэлефанаваў мне, і мы дамовіліся, што на "Полацку" зладзім пікнік, дзе выступаць будуць спявачкі з Мінска. Беларуская эміграцыя адмоўна зрэагавала на нашу дамоўленасць, але пікнік адбыўся з удзелам мінскіх прадстаўнікоў. Мы мелі надзею, што лёд надаверу зламалі, і не памыліліся. У наступным годзе У. Навіцкі прывёз да нас спевака Скарабагатава, які на тым жа "Полацку" выступіў з беларускімі песнямі. Яны расчулілі нас. Пазней, праз год, таварыства "Радзіма" дэлегавала Валянціну Пархоменка з яе

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# ПРАДМОВА ДА ДЗЁННІКА АНТОНА КОРШУНА

**У рэдакцыю трапілі цікавыя, на наш погляд, матэрыялы, якія ўяўляюць сабой дзённікавыя запісы Антона Коршуна з вёскі Смаленікі (зараз у Ганчароўскім сельсавеце Ляхавіцкага раёна), які ў 37-гадовым узросце разам з іншымі аднавяскоўцамі ад'ехаў у Аргенціну і 34 гады свайго жыцця правёў у гэтай далёкай ад Бацькаўшчыны краіне. Запісы абрываюцца 1964 годам, калі Антон Коршун вярнуўся на Радзіму, дзе ён у свой час пакінуў жонку з сынам. На вялікі жаль, мы не ведаем пра яго далейшае жыццё, тыя ўражанні, што чакалі яго пры сустрэчы дома. Загінулі і яго падрабязныя дзённікі. Як паведамляецца ў допісе ў рэдакцыю, увесь матэрыял, што захаваўся да нашых дзён, пераклаў з польскай і іспанскай моў яго зямляк Міхась Турыянскі.**

**Мы вырашылі, што нашым чытачам будзе цікава азнаёміцца з гэтым рукапісам. Але перад тым палічылі мэтазгодным даць слова навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі НАН Беларусі Таццяне Папкоўскай, якая займаецца вывучэннем гісторыі беларускай дыяспары ў розных краінах свету, у тым ліку і ў Аргенціне.**

УПЕРЫЯД паміж сусветнымі войнамі з тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ў той час знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы, у пошуках лепшай долі выехала даволі значная колькасць беларусаў. Большасць з іх былі беззямельныя і малазямельныя сяляне. Нізкі ўзровень жыцця, адсутнасць працы не давалі ім упэўненасці ў заўтрашнім дні, наводзілі на думкі аб пошуках лепшай долі ў іншых краях, прымушалі пакідаць зямлю сваіх продкаў і ехаць за мяжу. Некаторыя, праўда, цешылі сябе тым, што іх ад'езд часовы і, падзарабіўшы грошай, яны вернуцца дахаты. Але для многіх абяздоленых людзей, якім у Польшчы не знаходзілася ні працы, ні хлеба, ад'езд назаўсёды быў адзіным выйсцем. Асабліва вялікая колькасць беларусаў выехала ў гэты перыяд у краіны Лацінскай Амерыкі — Уругвай, Бразілію, Аргенціну. Статыстычныя даныя аб агульнай колькасці беларусаў, што пераехалі ў Аргенціну на сталае жыхарства, супярэчлівыя, але дакладна вядома, што ў гэтай краіне да другой сусветнай вайны пражывала каля 100 тысяч нашых суайчыннікаў. Значная частка іх сялілася цэлымі калоніямі ў аграрнай правінцыі Місіёнес, многія ўладкаваліся ў прамысловых правінцыях Мэндэза і Сан-Жуан, каля 60 тысяч пражывала непасрэдна ў Буэнас-Айрэсе і яго ваколіцах.

Звычайна ў першыя гады свайго знаходжання ў Аргенціне беларускія эмігранты выконвалі найбольш цяжкую і нізкааплатную працу, якая не патрабавала высокай кваліфікацыі. Атрымаўшы нават такую работу, людзі маглі лічыць, што ім вельмі пашанцвала. Некаторыя не знаходзілі аніякага сталага занятку на працягу гадоў, вымушаны былі жабраваць і жыць літаральна на вуліцы. Але так ці інакш гэтыя праблемы з цягам часу вырашаліся. Працавітыя і непатрабавальныя беларусы знаходзілі сваё месца пад шчодрым паўднёвым сонцам, пачыналі цікавіцца іншымі праблемамі: сацыяльнымі, палітычнымі, нацыянальнымі. Аднак і ў гэтых сферах жыцця не ўсё было проста. Вясковы беларус, які на Радзіме звычайна быў далёкі ад палітыкі, нават пры вялікім жаданні не мог у Аргенціне застацца ад яе ўбаку. Справа ў тым, што, трапляючы на прадпрыемства, у асяроддзе рабочых, ён аўтаматычна рабіўся членам таго ці іншага прафесійнага саюза. Прафсаюзы ж таго часу ў Аргенціне былі надзвычай палітызаваныя, мелі пракамуністычную накіраванасць. Камуністычная партыя ў краіне ўвогуле мела моцныя пазіцыі, і пад уплывам прафсаюзаў яе левардыкальныя ідэі падзяляла большасць працоўных. Не заставаліся ўбаку і беларусы.

У канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў пачынае зараджацца арганізаваны рух беларусаў у Аргенціне. Спачатку яны прымаюць удзел у дзейнасці Саюза ўкраінскіх работніцкіх арганізацыяў. У далейшым на базе гэтага саюза ўзнікае Саюз украінскіх і беларускіх работніцкіх арганізацыяў, які таксама займаецца ў асноўным палітычнай дзейнасцю ў радыкальным, пракамуністычным накірунку.

Не цураліся беларускія эмігранты і свайго нацыянальна-культурнага жыцця. У снежні 1934 года ў Буэнас-Айрэсе ўзнікае першая беларуская арганізацыя — культурна-асветніцкае таварыства "Грамада". Па прыкладу "Грамады" ў студзені 1937 года ствараюцца Беларускае таварыства "Культура" і "Таварыства бібліятэкі імя Івана Луцкевіча", у кастрычніку 1938 года — Беларускае культурнае таварыства "Белавеж". Гэтыя чатыры арганізацыі заснавалі ў маі 1939 года Федэрацыю беларускіх арганізацыяў у Аргенціне (ФБА), якая з цягам часу аб'яднала вакол сябе 16 беларускіх эмігранцкіх суполак. Арганізацыяй нацыянальна-культурнага жыцця федэрацыі кіравала ўправа на чале з М. Мярэчкам, У. Гайлевічам і Я. Пятрушакам. Ад пачатку свайго існавання ФБА наладзіла выпуск рускамоўнай газеты "Эхо", а пачынаючы з 1940 года — "Белорусского иллюстрированного календаря". Сябры беларускіх арганізацый, што ўваходзілі ў федэрацыю, акрамя ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці, заняткаў на курсах іспанскай мовы, нелегальна вывучалі творы класікаў марксізму-ленінізму, разам з аргенцінскімі арганізацыямі ўдзельнічалі ў антыўрадавых дэманстрацыях, мітынгах, забастоўках, уступалі ў рады Камуністычнай партыі Аргенціны, за што цярпелі переследы, падвяргаліся арыштам. На пачатку другой сусветнай вайны пры Федэрацыі беларускіх арганізацыяў ствараецца Беларускі дэмакратычны камітэт, актывісты якога праводзілі кампаніі па збору дабрачынных ахвяраванняў пад лозунгамі: "На дапамогу сіротам", "За падзенне Берліна", "На будаўніцтва шпіталя "Мінск" і інш. З 1941 па 1946 год беларусы Аргенці-



мужам Казаком, якія далі канцэрт народных беларускіх песень. Мы не сумняваліся, што палітыка таварыства "Радзіма" памянялася адносна эміграцыі. У газеце "Голас Радзімы" павеяў спрыяльны вецер, з'явіліся артыкулы, якія станоўча ацэньвалі ўклад эміграцыі ў скарбніцу беларускай культуры. Мы былі перакананы, што набліжаюцца падзеі, калі загамоняць у добрым сэнсе аб эміграцыі, і мы не памыліліся. У 1991 годзе пачулі аб суверэнітэце, а год пазней абвясцілі Беларусь незалежнай дзяржавай. Пачаў рыхтавацца Першы з'езд беларусаў. Мы ехалі на гэты сусветны з'езд, а ў сэрцах нашых была радасць, што невялічкую цаглінку і мы паклалі ва ўзаемаразуменне, што мы таксама патрыёты, перажываем за лёс Беларусі. Дай Божа, каб незалежнай яна засталася.

Нас цешыць, што "Голас Радзімы" змяніў курс, што газета стала незалежнай, што з'явіліся артыкулы, якія аб'ектыўна асвятляюць падзеі гістарычнай даўніны. Газету цяпер чытаюць эмігранты без крытыкі.

Я шчыра вам зычу захаваць такі ўзровень газеты далей, каб яна выхавала пакаленне, якое з пашанай паставіцца да нашай спадчыны і паспрыяе адраджэнню, талерантнасці і стане носьбітам дэмакратычных ідэй.

З пашанаю да вас

**Міхась БЕЛЯМУК.**

ЗША.

* * *

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Звяртаюся да вас па дапамогу. Спадзяюся, што мастак Тодар Кашкурэвіч — асоба вядомая ў Мінску?

Я даведаўся, што на Віцебшчыне была знойдзена дзеючая (вельмі зграбная, з металічнымі інкрустацыямі) беларуская дуда XIX стагоддзя, што ўжо больш за год мастак Тодар Кашкурэвіч робіць з тае дуды падобнікі (дзеючыя) і прадае іх... Я маю "Smuzgas" (латышская валынка) і падабаю на ёй іграць (звычайна на прыродзе, для сябе, для душы), але надта хацеў бы набыць менавіта беларускую дуду, ды і ўвогуле даведацца пра традыцыйнае беларускае дударства.

Ці не было б панства ласкавае паведаміць мне адрас спадара Кашкурэвіча альбо перадаць яму гэты мой ліст?

Наперад дзякую!

Усяго найлепшага!

Усіх кабет, супрацоўніц "Голасу Радзімы", шчыра вітаю з вясною.

**Андрэвуш ШЧУРА.**

г. Мурманск.

***АД РЭДАКЦЫІ.*** *Атрымаўшы ліст, мы, вядомая рэч, скантакталіся з маладым, але ўжо вядомым мастаком Хведарам Кашкурэвічам. Вестка з далёкага краю яго ўзрадавала. Ён сапраўды займаецца вывучэннем і рэканструкцыяй, ці, кажучы словамі Андрэвуша, "робіць падобнікі" такога рэдкага інструмента, як літоўская (беларуская) дуда. А што сапраўды яна рэдкая, сведчыць тое, што на цяперашні час у нашым краі захоўваецца адзіны аўтэнтычны асобнік старажытнай дуды ў краязнаўчым музеі горада Лепеля. Больш багатыя зборы ёсць у музеях Масквы, Пецярбурга і Вільнюса.*

*Што датычыць чутак, нібыта нядаўна на Віцебшчыне знойдзена дзеючая, багата аздобленая інкрустацыяй дуда, то мусім Андрэвуша расчараваць. Паводле слоў Х. Кашкурэвіча, адзінае, што было знойдзена археолагамі, гэта ўсяго толькі кавалак скуры з дударынага мяха.*

*Таму, мяркуем, цікавейшым будзе для Андрэвуша расказаны Хведарам факт, што да нядаўняга часу ў сям'і дудара (ён ужо нябожчык) з Ушаччыны захоўвалася старажытная дуда, якую — паглядзіце толькі, як яно ў жыцці бывае! — зусім нядаўна забрала ў Мурманск ягоная дачка. Прозвішча яе Хведар паабяцаў удакладніць і пра ўсё паведаміць у лісце да вас, сп. Шчура. А яшчэ ён падрадзіўся для "Голасу Радзімы" напісаць артыкул пра беларускую дуду, бо, як высветлілася, у Хведара Арленавіча назапасілася шмат цікавага матэрыялу, і ён яго мяркуе выдаць асобнай кнігай.*

* * *

Паважаная рэдкалегія! Адкрываю я № 5 "Голасу Радзімы", і ў вочы адразу кідаецца слова на правым баку ўверсе на першай старонцы — "Khoroshki". Думаю сабе, аб якіх "Карашках" ідзе гутарка?! Што за дзіва!

Ніжэй у абрамоўцы чытаю і пераконваюся, што гэта наш слаўны беларускі ансамбль "Харошкі" так прадстаўляецца ў афішах у англамоўных краінах. Чаму не пісаць у арыгінальнай мове кірылічнымі літарамі "Харошкі" ці беларускімі лацінскімі літарамі, як CHAPOSKI (тут можна апусціць знак над літарай "s").

Хацела б я ведаць, чаму ўсё з Беларусі перамолваецца праз расійскія жорны ў англійскую і іншыя мовы? Мы ж беларусы, маем два альфабэты і павінны імі ганарыцца і карыстацца. Нашы словы і назвы будуць толькі тады мець праўдзівы і пэўны сэнс, калі яны будуць пісацца беларускай лацінкай.

Возьмем, напрыклад, імёны Янка і Якуб. Вы пішаце іх няправільна, замест Janka і Jakub. Вы пішаце вымовай іх. Сяргей у вас у пашпартах Sergei замест Siarhiej. З Галіны вы робіце Galina, з Вольгі — Olga, а з Міхала — Міхаіла ці Mikhail па-англійску, а англамоўныя народы вымаўляюць апошняе як Мікел (Мікел Горбачоф).

Пакіньма рускім іх рускія назвы і правапіс. Няхай іх "Карашкі" застаюцца ім, а беларусы хай належна рэпрэзентуюцца па-за межамі радзімы такімі, якімі мы павінны быць і аб якіх павінен ведаць увесь свет, як народ, годны ўвагі і пахвалы.

Прывітанні!

**В. РАМУК.**

Чыкага, ЗША.

***АД РЭДАКЦЫІ.*** *Вось такі своеасаблівы водгук атрымала рэдакцыя ад нашай зацікаўленай чытачкі, шаноўнай спадарыні Веры Рамук з Чыкага на публікацыю, прысвечаную славутаму ансамблю "Харошкі". Узнята, скажам так, праблема з нагоды. Напэўна, многім яна падасца малаістотнай і нават не вартай увагі. На самай справе тут ёсць над чым паразважаць. І не толькі над тым, як найбольш правільна ў англійскай мове перадаваць беларускія назвы, імёны, прозвішчы і г. д., але і наколькі англійская традыцыя падрыхтавана да гэтага.*

*Іншая справа, калі перадаваць найменне "Харошкі" ў арыгінальнай мове кірылічнымі літарамі ці беларускімі лацінскімі літарамі, як "Charoski". Тут мы з нашай шаноўнай чытачкай цалкам пагаджаемся. І не выключаем магчымасці, што і ў англамоўным напісанні назва "Харошкі" будзе гучаць набліжана да сваёй беларускай першаасновы. у гэтым можа якраз і паспрыяюць беларусы замежжа. Бо ведаем, як настойліва яны выступалі за тое, каб назва нашай краіны Беларусь перадавалася ў сваім першародным гучанні.*

*Вы, спадарыня Вера, маеце рацыю наконт таго, як трэба правільна перадаваць на пісьме ў лацінскай (англамоўнай) транскрыпцыі беларускія імёны тыпу Вольга, Сяргей і Янка. Як нам паведамілі ў пашпартнай службе, у дакументах новага ўзору якраз да гэтага і імкнуцца. Хоць, вядома, мае значэнне і тое, з якой культурай і адукацыяй чалавек запаўняе важныя дзяржаўныя паперы. Бо, што тут утойваць, у нас сапраўды доўгі час амаль усё, што было звязана з выхадам у замежжа, у тым ліку і на англійскую, французскую і іншыя мовы, трансфармавалася праз прызму адзінай на той час у краіне дзяржаўнай рускай мовы. Але даводзіцца цяпер сутыкацца не толькі з пераадоленнем гэтай традыцыі, але і з праблемай перадачы на пісьме своеасаблівых беларускіх гукаў, таго ж нашага звонкага фрыкатыўнага "г" (імя Галіна), якое гучыць дзесьці пасяродку паміж глухім ch і выбуховым "g".*

*Як бачым, праблема, закранутая ў пісьме спадарыні Веры Рамук, даволі істотная. Дзякуем за вашу неабыякавасць і ўзрушанасць усім, што датычыць нашага нацыянальнага прэстыжу і годнасці, у тым ліку і дакладнай перадачы беларускіх назваў у іншамоўным напісанні.*

* * *

Вялікае ўсім прывітанне!

Дзякуй, што не забываецеся пра мяне. Малайцы, што дасылаеце газету, што магу даведацца, як справы ў маёй роднай Беларусі.

У гэтым годзе Вялікдзень у Італіі вельмі рана. Таму я загадзя шлю віншаванні ўсім, хто не забывае мяне, хто жыве далёка ад сваёй дарагой Беларусі і на старасці гадоў вельмі сумуе па ёй. Хрыстос уваскрэс!

Усяго найлепшага

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**ГУТАРКА З НАГОДЫ**

Некалькі гадоў таму, будучы па справах Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў Злучаных Штатах Амерыкі, меў нагоду пазнаёміцца, а пасля і некалькі дзён пабыць у гасціннай сям'і спадарства Завістовічаў у Вашынгтоне, па-беларуску душэўна шчодрых, зычлівых людзей.

Спадар Расціслаў Завістовіч — постаць не толькі прыметная, але і ключавая ў беларускай эміграцыі. На працягу некалькіх гадоў, а мо і дзесяцігоддзяў узначальвае такую аўтарытэтную грамадскую арганізацыю, як Беларускі Кангрэсовы камітэт Амерыкі, які побач з Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗай) годна прэзентуе нашу дыяспару на тым далёкім кантыненце.

Аднак сп. Расціслаў Завістовіч мае пашану не толькі ў асяроддзі сваіх землякоў і аднадумцаў. Узначальваў, напрыклад, грамадскі камітэт па справах этнічных меншасцей пры Кангрэсе Злучаных Штатаў Амерыкі. Улічыўшы, што Амерыка — краіна эмігрантаў, можна ўявіць, як гэта аўтарытэтна.

Цяпер Расціслаў Завістовіч на пенсіі. Але і пра яго колішнюю працоўную прафесійную дзейнасць таксама можна сказаць нямала добрых слоў. У нас, напрыклад, шмат надрукавана артыкулаў і нават выдадзены дзве кнігі (аўтар Лідзія Савік) пра Барыса Кіта, дзе, апрача іншага, апавядаецца пра важкі ўклад нашага земляка ў развіццё амерыканскай астранаўтыкі. Дык вось, Бырыс Кіт працаваў у аддзеле, які ўзначальваў Расціслаў Завістовіч. Абодвум, дарэчы, прысвечаны артыкулы ў амерыканскіх энцыклапедыях. Аднак тут, на Радзіме, у беларускіх энцыклапедычных выданнях прозвішча Р. Завістовіча чамусьці не згадваецца. Наўрад ці з-за нейкага прадузятага стаўлення. Хутчэй па той прычыне, што не заўсёды маем дакладнае ўяўленне пра ролю і ўклад прадстаўнікоў нашай дыяспары ў канкрэтную справу.

Тады, падчас нашых шчырых размоў, сп. Завістовіч расказваў пра варункі свайго жыцця, пра тое, як маладым хлопцам быў вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну, дзе, вядомая рэч, давялося сербануць гора. І неяк між іншым згадаў пра цікавую

(Заканчэнне на 14-й стар.).

ны выслалі праз Міжнародны Чырвоны Крыж на Бацькаўшчыну прадуктаў і адзення на агульную суму 1 мільён песа.

Характэрнай тэндэнцыяй таго перыяду была паступовая русіфікацыя таварыстваў, што аб'ядналіся ў ФБА. У эмігрантаў, у найбольшай ступені прасякнутых камуністычнымі ідэямі, узнікае думка аб славянскай еднасці, якая ў сваім рускім абліччы павінна была б перакрыць усё нацыянальнае. У сакавіку 1943 года на І Лацінаамерыканскім кангрэсе ў Мантэвідэо, дзе ў шэрагу іншых дэлегатаў прысутнічалі 50 беларусаў з Аргенціны, быў утвораны Славянский Союз Аргентины. Пад яго ўплывам арганізацыі беларускай эміграцыі ва ўсё большай ступені страчваюць сваю нацыянальную адметнасць і накірунак дзейнасці. Беларускае таварыства "Культура" змяніла назву на "Белорусское общество им. Горького", таварыства "Док Суд" — на Белорусское общество "Минск", Беларускае таварыства ў Бэрысо — на Общество Георгия Скорины, З'яўляюцца і новыя арганізацыі — имени Л. Толстого, имени А. Пушкина і інш. Федэрацыя беларускіх арганізацыяў далучаецца да Славянского Союза Аргентины.

Пад уражаннем перамогі Савецкага Саюза над гітлераўскай Германіяй, настойлівай прапаганды, разгорнутай уладамі СССР і БССР аб хуткай сусветнай перамозе камуністычнага ладу, росквіце дабрабыту і дэмакратыі ў Савецкім Саюзе, паверыўшы ў шчаслівае жыццё на Радзіме, беларусы-эмігранты пачынаюць адмаўляцца ад аргенцінскага грамадзянства і прымаць савецкае. Некаторыя прадавалі сваю маёмасць, дамы, зямельныя надзелы і вярталіся на Бацькаўшчыну. Толькі ў 1954—1956 гадах 15 тысяч беларусаў выехала ў БССР. Праўда, у 60—70-х гадах шмат хто з іх вярнуўся назад у Аргенціну.

Такім чынам, жыццё А. Коршуна — шмат у чым тыповае і характэрнае, прыклад таго, на што спадзяваліся беларусы ў Аргенціне, аб чым яны марылі і што ў рэчаіснасці знайшлі ў чужым краі. Аб тым, што яны ўбачылі, вярнуўшыся на Радзіму, з якімі праблемамі сутыкнуліся дома, як успрынялі яны вясковае жыццё ў Беларусі 60-х гадоў пасля сонечнай Аргенціны, ведаючы параўнальна недалёкую нашу гісторыю, мы можам сабе даволі яскрава ўявіць.

**Таццяна ПАПОЎСКАЯ,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі**
**НАН Беларусі.**

# У АРГЕНЦІНУ ПА ШЧАСЦЕ

## У СУБОТУ 26 ВЕРАСНЯ 1964 ГОДА НА АРГЕНЦІНСКІМ ПАРАХОДЗЕ "САЛЬТА" ВЯРТАЎСЯ НА РАДЗІМУ ГРАМАДЗЯНІН САВЕЦКАГА САЮЗА АНТОН КОРШУН

**Як і мноства сялян Заходняй Беларусі, Антон Коршун з вёскі Смаленікі, Адам Вількевіч з вёскі Гарадзішча, Пётр Гладкі з Мядзведзіч прыбылі ў Аргенціну ў 1930 годзе. Іх гнала галеча, што панавала сярод беззямельных сялян у панскай Польшчы. У роднай старонцы яны пакінулі жонак і дзетак, маючы намер вярнуцца да іх "за пару год" з грашамі. Аднак лёс гэтых людзей склаўся інакш. Шчаслівая сустрэча з пакінутымі сем'ямі пасля трыццаці чатырох год разлукі адбылася амаль толькі ў Антона Коршуна. Пра лёс ягоных сяброў Гладкага і Вількевіча вядома няшмат. У 1939 годзе, калі немцы напалі на Польшчу, яны запісаліся добраахвотнікамі на вайну. Далейшы іх лёс невядомы, мо хто з іх сваякоў нешта ведае, хай адгукнецца.**

**А вось лёс Антона Коршуна ў Аргенціне склаўся нядрэнна: з "тутэйшага хлопа" ён за дзесяць год вырас да адміністратара штотыднёвіка на рускай мове "Эхо". Шмат спрыяў працы па выданню штогадовых беларускіх календароў. Больш падрабязна пра сваё жыццё ў Аргенціне ён расказаў сам на старонках газеты "Родной Голос", выдаваемай колам рускіх эмігрантаў у Буэнас-Айрэсе.**

Ён піша: "Шкада, што я не пісьменнік і не магу абмаляваць ва ўсёй яркасці тое, што зрабіў і дасягнуў у гэтай краіне. У маім маладым жыцці не набліжалася тое шчасце адукацыі, якую атрымалі мае ўнукі за савецкай уладай.

У 1914 годзе пачалася вайна, што прынесла голад, гора і пакуты нашай сям'і. Нарадзіўся я 7 чэрвеня 1893 года, у вёсцы Смаленікі ў нас быў дом, крыху зямлі. Але пасля вайны і рэвалюцыі вярнуўся на папялішча, парослае беразняком. Пабудаваў дом, ажаніўся, пры польскай уладзе вывучыў польскую мову. А потым сям'я, дзеці і недахоп ва ўсім. Зямлі — толькі агарод, заробкаў не было, а дзецям — хоць пойла дай. Працаваў цесляром па гарадах і вёсках, ды што з таго? Праца была непастаянная, а калі атрымліваў, за тыя грошы купіш, бывала, пару цукерак дзецям. Як нервавалася і лаялася на мяне жонка: "Не трэць грошы на цукеркі, сам ведаеш, зямлі ў нас няма, заробкі не заўсёды бываюць. Вось каб нам купіць хоць тры гектары зямлі, тады б жылі спакойна..." З мэтай падзарабіць і паправіць жыццё паехаў у Амерыку. У горадзе Буэнас-Айрэс прынялі мяне на кватэру блізкія землякі ў стары дом. Пакой малы, тры ложкі, і нас усіх са мной восем чалавек. Трое занялі ложкі, астатнія — на падлозе, падкладваючы рэчавыя мяшкі пад галаву — як на фронце. Гэта была мая першая ноч новага пралетарскага жыцця ў Амерыцы. Мара пра работу не давала мне заснуць, а раніцай — усе хто куды, у кожнага свой клопат. У мяне яшчэ горш: мовы не ведаю, ногі дрыжаць, на календары студзень, а тэмпература плюс 35, сонца паліць. Як работу папрасіць? Я, дарослы, здаровы чалавек, здольны выконваць самую цяжкую работу, стаяў на пляцы Рэціра. На першы погляд, маё стаянне некалькі дзён увагі кагонебудзь не прыцягнула. Я стаяў і глядзеў, як на вежы гадзіннік выбіваў час — дзесяць раніцы. Да мяне сталі падыходзіць мужчыны, жанчыны і пра нешта бурна гаварылі, смяяліся, паказваючы на пальцах і рукамі так, як размаўляюць нямыя ад роду людзі. Адзін паказваў у бок вакзала, другі — у цэнтр горада, то спрабавалі ўцягнуць у праходзячы аўтобус — я стаяў, як слуп! Я зусім не разумеў аргенцінскую мову, таму не мог сказаць усім гэтым добрым грамадзянам, што проста шукаю працу.

(Працяг будзе).

БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# ДЭЎНІЗАЦЫЯ

(Заканчэнне.
Пачатак на 5-й стар.).

І ў адным з польскіх патрыятычных гімнаў "Божа, які Польшчу!..", перакладзеных лацінкай на беларускую мову, меліся "куплеты, прысвечаныя барацьбе беларусаў-уніятаў супраць гвалтоўнага пераводу іх у праваслаўе".

Значная частка уніяцкіх святароў, чые цэрквы сталі праваслаўнымі, імкнуліся знайсці службу ўсё ж не ў гэтай канфесіі, а ў каталіцкай. Іх прыход сюды ў пэўнай ступені тлумачыць, чаму ксяндзы, а не папы прымкнулі да паўстанцкага руху ў 1863—1864 гадах. Апошнія, як вядома, заклікалі сваіх вернікаў у час малебнаў не далучацца да атрадаў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў. Першым, каго ў Вільні публічна пакаралі смерцю за ўдзел у паўстанні, быў вікарны ксёндз з Лідскага павета Станіслаў Ішора. Праз два дні такі лёс напаткаў ксяндза Раймонда Зямацкага.

Знаходзячыся ў апазіцыі да паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, некаторыя папы пакідалі свае прыходы і падаваліся на ўсход. Такую нагоду многа дзе выкарысталі для таго, каб аднавіць у хрысціянскіх храмах уніяцкае набажэнства. З гэтым настроем народных мас даводзілася лічыцца і кіраўнікам паўстання 1863—1864 гадоў, таму ў шэрагу выпрацаваных тады дакументаў гаварылася аб адмене праведзенай па волі Найсвяцейшага Сінода ў 1839 годзе забароны уніяцкай царквы.

Вялікую павагу да сябе выклікаюць нашыя продкі тым, што ў той надзвычай складаны час, калі іх лёсам распараджаліся, зыходзячы з уласных інтарэсаў, чужыя народы, не ўзнікла братазабойчая барацьба. І ў час падпісання ў 1596 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі, і ў час скасавання яе ў 1839 годзе беларусы паводзілі сябе як цывілізаваны народ, не аддаўшы ў ахвяру канфесійнаму фактару свае нацыянальныя вартасці, што мелі вялікую і багатую гісторыю.

МАГЧЫМА, вынікі скасавання уніі не былі б такімі цяжкімі і трагічнымі, каб усё, што гаварылася вышэй, датычыла толькі перамен у канфесійным жыцці беларусаў. Справа ж далёка не абмежавалася гэтым. Тэрмінова быў выдадзены царскі ўказ аб забароне ўжываць беларускую мову ў храмах, у масавым парадку сталі замяняць уніяцкія беларускамоўныя служэбнікі такой жа літаратурай маскоўскага выдання на рускай мове. Таму наш вядомы гісторык У. Ігнатоўскі меў рацыю пісаць: "Прымусовае скасаваньне вуніі з болем адбілася на народным сумленьні". Пры непасрэдным удзеле выхадца з беларусаў мітрапаліта Іосіфа Сямашкі і яму падобных вынішчалася беларуская мова якраз з таго адзінага грамадскага месца — уніяцкіх цэркваў, дзе яна мела прытулак на працягу ўсяго перыяду існавання Рэчы Паспалітай і не адно дзесяцігоддзе пасля падзелу апошняй. І ўсё ж з ходу, адным махам нельга было адлучыць былых уніятаў ад беларускай мовы, якой яны такі доўгі час зносіліся з Богам. З іх любасцю да матчынага слова яшчэ не раз давядзецца палічыцца высокім духоўным і свецкім асобам.

Цяжкасці з пераводам простых вернікаў-уніятаў у праваслаўе былі поўнай нечаканасцю для Найсвяцейшага Сінода. Памылка яго заключалася ў тым, што гэта даволі складаная справа распачалася да таго, як была падрыхтавана неабходная колькасць праваслаўных святароў з карэннага насельніцтва беларускіх губерняў, якія добра ведалі б яго культуру і мову.

З неверагоднай цяжкасцю прызвычайваліся да рускага слова ў тых уніяцкіх цэрквах, дзе ў выніку розных абставін удалося некалі трывала насадзіць польскую мову. Для значнай часткі такіх храмаў звычайнай з'явай было выкананне рэлігійных гімнаў і псалмоў выключна толькі на польскай мове, што супярэчыла духу палітыкі свецкіх і царкоўных уладаў Расійскай імперыі і таму не магло быць пакінутым па-за ўвагай. Гэта да такой ступені напалохала Іосіфа Сямашку, што ён, каб толькі непісьменнае ў рускай мове духавенства Літоўскай епархіі не вяло казанні і катэхізічныя размовы па-польску, дазволіў ужываць мясцовую рускую мову. (У даным выпадку пад мясцовай рускай мовай патрэбна разумець беларускую. І. Сямашка, відаць, свядома пазбягаў называць яе сваім іменем, хаця ў яго сям-там сустракаецца выраз "беларуская мова").

Такіх святароў стараліся як мага хутчэй забяспечыць узорнымі пропаведзямі на рускай мове. Праўда, у якасці часовага і вымушанага кроку ўсё ж давялося пайсці на пераклад на польскую мову праваслаўнага падрабязнага катэхізіса.

Пераймаючы вопыт польскіх каталіцкіх біскупаў у знішчэнні ўсяго, што звязана з уніяцтвам, і рускія епіскапы пакінулі ў гэтым ганебны след. З ініцыятывы і ўхвалы мітрапаліта Іосіфа Сямашкі масавае спальванне рукапісаў і кніг былых уніяцкіх цэркваў і кляштараў распачалося яшчэ з 1841 года, і доўжылася гэтая варварская акцыя ажно да 1859 года, пакуль, як здавалася яе ініцыятарам, ужо не было чаго аддаваць агню. Па ўказанні праваслаўнага мітрапаліта Іосіфа Сямашкі для гэтай мэты спачатку выкарыстоўвалі ў Жыровічах манастырскія печы, але паколькі такім спосабам вельмі марудна знішчаліся кнігі, было вырашана іх паліць проста на раскладзеных вогнішчах на манастырскім пляцы.

Нядобрую ролю знішчальніка уніяцкіх кніг давялося ўзяць на сябе Полацкай духоўнай кансісторыі, куды яны ў 30-я гады XIX стагоддзя звозіліся з усёй велізарнай тэрыторыі Беларускай епархіі. З дастаўленых сюды кніг ад агню маглі ўцалець толькі тыя, якія кінуліся ў вочы, чымсьці выклікалі да сябе цікавасць з боку полацка-віцебскіх архірэяў, якія бралі ўдзел у іх спальванні.

Не такі жахлівы лёс напаткаў літаратуру, што мелася ва уніяцкіх навучальных установах. На яе звычайна накладваўся арышт, з тым каб добра прыгледзецца і вызначыць, куды яна павінна быць вывезена. Пасля ліквідацыі Берасцейскай царкоўнай уніі спыніла сваё існаванне і бібліятэка Полацкай уніяцкай семінарыі. Усяго тут налічвалася больш за 10 тысяч тамоў розных кніг, у тым ліку і старадрукаў. Новым гаспадаром самых каштоўных з іх стала Кіеўская духоўная акадэмія.

Каб на Беларусі заставалася як мага менш такога, што нагадвала б аб колішнім існаванні тут грэка-рымскай царквы, у 1845 годзе вывозіцца ў Пецярбургскі Сінадальны архіў архіў уніяцкіх мітрапалітаў, у якім захоўвалася шмат каштоўных дакументаў. Сярод іх былі і такія, што датычылі 1470 года.

МОЦНА памыляліся тыя, хто лічыў, што можна знішчыць усе сляды уніяцтва на Беларусі. Яны ж з цяжкасцю змываліся толькі таму, што ў гэтай веры была надзейная падтрымка ў народа. На працягу многіх гадоў праваслаўнае духавенства непакоіла наяўнасць на Беларусі вялікай колькасці уніяцкіх служэбнікаў, адпраўнікаў, іншай літаратуры. Як толькі ні палілі іх, але пры праверках амаль заўсёды знаходзілі ў тайніках храмаў забароненую рэлігійную літаратуру. Святары, што прынялі праваслаўе, усё ж не хацелі развітвацца з дарагімі для іх душы і сэрца духоўнымі выданнямі, значная частка якіх друкавалася на роднай мове. Ведаючы пра ўсё гэта, І. Сямашка рэгулярна выклікаў да сябе ў Вільню тых свяшчэннікаў і благачынных, у каго ўдавалася знайсці літаратуру ці якія падазраваліся, што захоўваюць у сябе уніяцкія богаслужэбныя кнігі.

Ліквідацыя уніі адкрыла шырокую прастору да руска-польскай асіміляцыі яе носьбітаў. Пра гэта ў свой час з вялікім абурэннем пісаў Ян Станкевіч, звяртаючы ўвагу на тое, што ліквідацыя уніяцкай царквы прывяла і да павелічэння ў нас "імёнаў лацінскага тыпу, бо шмат якія вуніяты, баронячыся ад залічэння іх маскоўскай адміністрацыяй да праваслаўных, прыкідваліся рымскімі каталікамі і патай пераходзілі ў лацінства". Ганенні на беларускіх уніятаў выклікалі адмоўную рэакцыю і ў многіх прагрэсіўных прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі. Сярод іх быў і дробнабуржуазны рэвалюцыянер, адзін з заснавальнікаў і тэарэтыкаў анархізму Міхаіл Бакунін. Ён рэзка крытыкаваў рашэнні Полацкага сабора аб зліцці уніяцкай царквы з праваслаўнай, асуджаў жорсткія дзеянні біскупа І. Сямашкі за тое, што разам з царскай адміністрацыяй так настойліва праводзіў гвалтоўную русіфікацыю беларускага насельніцтва. "Юдам у Хрысце" назваў І. Сямашку Аляксандр Герцэн. Праўдзівыя ацэнкі М. Бакуніным і А. Герцэнам дзейнасці рэнегата уніяцтва І. Сямашкі ў многім разыходзіліся з думкамі рускіх гісторыкаў праваслаўнай рэлігіі, кіраўнікоў кліру, асабліва тых, якія ў сваіх пісаннях і прамовах імкнуліся зрабіць яго недатыкальнай асобай, заяўляючы, што "пры знішчэнні рэштак старых уніяцкіх абрадаў і звычак Іосіф заўсёды захоўваў асцярожнасць" (Г. Кіпрыяновіч). Вышэйпрыведзеныя факты якраз сведчаць аб адваротным.

У 70-я гады XIX стагоддзя прыйшла чарга да пераводу уніятаў у праваслаўе і на той тэрыторыі Польшчы, якая паводле ўмоў падзелу Рэчы Паспалітай належала Прусіі. І тут ужываліся гвалтоўныя захады. За нежаданне перайсці ў праваслаўе бацька вядомага беларускага этнографа Мікалая Янчука Андрэй Янчук (стараста уніяцкай царквы, украінец па паходжанні) з Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні перанёс цялесную экзекуцыю і быў адпраўлены ў турму. Усе дзеці Андрэя Янчука прынялі каталіцкую, а Мікалай праваслаўную веру, а іх маці так і засталася нераскаянай уніяткай.

Каб апраўдаць свае дзеянні па прымусовым далучэнні беларускіх уніятаў да праваслаўя, яго духоўныя асобы вымушаны былі доўгі час ісці на самыя розныя захады дзеля ўтойвання праўды ад людзей. Тут можна адзначыць і такі факт, як пабудова ў Віцебску ў 1889 годзе капліцы ў гонар 50-годдзя ўз'яднання уніятаў з праваслаўем. Аднак рэгулярнае святкаванне юбілеяў "уз'яднання" уніятаў з праваслаўнымі вельмі мала садзейнічала адданасці першых новай веры. Свой настрой перадавалі яны і малодшым пакаленням. Мала хто з прадстаўнікоў свецкага і духоўнага чыноўніцтва мог падумаць, што калі ў красавіку 1905 года цар выдасць указ "Аб умацаванні пачаткаў верацярпімасці", дык на Беларусі ад Рускай праваслаўнай царквы да каталіцкай пяройдзе больш за 230 тысяч чалавек. І не выклікае сумнення, што праваслаўныя беларусы пераходзілі ў каталіцызм хутчэй за ўсё з-за крыўды на Рускую праваслаўную царкву, што яна прымусовым скасаваннем Берасцейскай уніі пазбавіла іх сваёй рэлігіі. Заставацца ёй верным можна было толькі ўпотай і найчасцей за ўсё ў адзіночку. Вядома, да прыкладу, што на рубяжы XIX—XX стагоддзяў маліўся ў сямейных умовах паводле уніяцкага абраду бацька беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага Іван Гарэцкі.

Пакуль у заходніх губернях Расійскай імперыі існавала уніяцкая царква, большасць яе вернікаў вызначала сваё этнічнае паходжанне як ліцвіны, русіны, русічы, беларусцы, беларусы.

Магчыма, самым трагічным у скасаванні Берасцейскай царкоўнай уніі якраз і трэба прызнаць, што ад тае пары вельмі трывала ўсталявалася, значна пашырылася практыка дзяліць паводле канфесійнай прыкметы адзін і той жа народ на дзве часткі: беларусаў праваслаўнай веры адносіць да рускіх, каталіцкай — да палякаў. Адсюль зусім заканамерна беларусы сталі ў больш значнай ступені, чым раней, яблыкам разладу.

**Леанід ЛЫЧ.**

ВАРТА ЎВАГІ




Напрыканцы мінулага года пабачыла свет кніга "Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі". Яе аўтар — Вольга Лабачэўская, кандыдат мастацтвазнаўства, навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем культуры. Манаграфія спадарыні Лабачэўскай падалася нам актуальнай па некалькіх прычынах: аўтар даследуе ў гісторыка-мастацтвазнаўчым і культуралагічным аспектах сістэму грамадскіх адносін, што існавала ў галіне народнага мастацтва і промыслаў на Беларусі напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзяў, а таксама ў перыяд 1921—1939 гадоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, падчас яе ўваходжання ў склад Польшчы. Характэрнай для стагоддзяў, якое адыходзіла і якое наступала, была ўзросшая занепакоенасць лёсам народнага мастацтва і сялянскіх мастацкіх промыслаў. Бо аслабленне, а то і знікненне некаторых узораў іх падрывала падмурак агульнанацыянальнай культуры. Менавіта народнае мастацтва найбольш яскрава ўвасабляла і ўвасабляе тое адметнае, што робіць культуру кожнага этнасу распазнавальнай у суквецці культур іншых народаў.

Намаганні па захаванні і развіцці народнага мастацтва ў той час зыходзілі з боку адукаваных колаў грамадства, мастацкай эліты, разначыннай інтэлігенцыі і маладой нацыянальнай буржуазіі. І вопыт, назапашаны тады, у многім можа быць карысным цяпер, калі наша грамадства знаходзіцца ў пошуку новых шляхоў свайго развіцця, калі мы стаім на парогу ў новае тысячагоддзе.

Тым больш, што ў беларускай савецкай навуцы вывучэнне і асэнсаванне дарэвалюцыйнага грамадска-культурнага вопыту, што меўся на Беларусі ў гэтай галіне, адсутнічалі. І многія старонкі манаграфіі Вольгі Лабачэўскай, асабліва тыя, што тычацца раздзела па народнаму мастацтву і промыслах Заходняй Беларусі, малавядомыя і ўяўляюць цікавасць не толькі для спецыялістаў, але і для шырокага кола чытачоў.

Дарэчы, Каса імя Юзафа Мяноўскага Фонду падтрымкі навукі ў Варшаве выдзеліла Вользе Лабачэўскай стыпендыю для навуковай работы ў самой Польшчы. Што дазволіла ёй весці росшук матэрыялаў у Інстытуце археалогіі і этнаграфіі, Інстытуце мастацтва Польскай акадэміі навук, архіве народнага мастацтва ў Кракаве, у Ягелонскім і Варшаўскім універсітэтах, Дзяржаўным этнаграфічным музеі ў Варшаве, Музеі гісторыі ткацтва ў Лодзі...

Рэдакцыя мяркуе ў хуткім час пазнаёміць чытачоў з урыўкамі з манаграфіі Вольгі Лабачэўскай.



ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА





# ДЫЯЛОГ

*Словы Васіля ЖУКОВІЧА.*
*Музыка Дзмітрыя ТРЫФАНАВА.*



— Паглядзі на блакітную стужку,
Я касу заплятала сама.
У мяне і каса, і вяснушкі,
А ў цябе іх чамусьці няма.

— Ці ж касу заплятае мужчына!
Ну навошта, скажы мне, яна!
А вяснушкі — другая прычына:
Іх табе падарыла вясна.

— Ну, пайду да сяброўкі, да Валькі,
Не хадзі, не хадзі ты за мной:
У мяне дзве прыгожыя лялькі,
А ў цябе — ні адной, ні адной.

— Лялек я не нашу: я — мужчына.
У мяне, калі хочаш ты знаць,
Ёсць адна грузавая машына —
Тваіх лялек магу пакатаць.





*І кожны марыць пра сваё.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА.*

ЛЯСНАЯ АЗБУКА

## ХЛЕБНАЕ ДРЭВА

Хлебнае дрэва,
Хлебнае дрэва,
А на ім плод,
Нібы той гарбузок,
Добры ласунак,
Яго і зрываюць,
Смачны,
Духмяны
Пякуць калабок.

Хлебнае дрэва
Ў джунглях дрымучых,
Хлебнае дрэва
Расце
І ў садах,
Хлеб
На ствале,
На галінах
Трывалых —
Сытная,
Добрая
Людзям яда.

## ЦІС

Ці чулі вы,
Ці, можа, не —
Цiс-дрэва
Ёсць такое!..
За дуб
Цвярдзейшае яно,
Кусціцца,
Шапаткое.
Цiс славіцца
Яшчэ сваёй
Цудоўнаю паставай,
На поўдні
Раскашуе ён
Пад сонейкам ласкавым.

## ЧАЧОТКА

Чачотка — бяроза,
Чачоткі галінкі
І ствол
У маленькіх
Чарнявых
Бугрынках.

Чачотка расце
Малой, невялікай,
Чашчобаў яна
Трымаецца дзікіх.

Чачотку завуць
І карэльскай бярозай.
Яна не баіцца
Суровых марозаў.

## БУЛЬБАЧКА-СЮРПРЫЗ



Калі хочаш хутчэй атрымаць ураджай, зрабі такі "гародчык". Запоўні паглыбленне ў бульбачцы увільготненай ватай, наверх насып зярнятак, на дно талеркі налі вады.

Цяпер пастаў усё ў цёмнае месца і сачы, каб "гародчык" заўсёды быў вільготны. Як убачыш, што з'явіліся ўсходы, вынесі яго на сонечнае месца. Прыкладна праз тыдзень ураджай гатовы да стала.

ДЭБЮТ МАКСІМА САВЕТКІНА (10 ГАДОЎ, г. МІНСК)

## Красворд «Радзіма»

| | |
|---|---|
| 1 | Р |
| 2 | А |
| 3 | Д |
| 4 | З |
| 5 | І |
| 6 | М |
| 7 | А |

**Р** — гародніна (аднайменная казка: "Пасадзіў дзед...")
**А** — белыя караблікі (плаваюць па небе
**Д** — дрэва (моцны, як...)
**З** — бык (жыхар Белавежскай пушчы)
**І** — хатняя птушка (надзьмуты, нібыта...)
**М** — сталіца Беларусі
**А** — каб навучыцца чытаць, трэба ведаць...

(Рэпка, аблокі, дуб, зубр, індык, Мінск, азбука).

## КАЗКА ПРА СМЕЛАГА САБАКУ БОБІКА

На лузе стаяла невялікая хатка. У ёй жыў пастух па прозвішчу Нік і ягоны сабака Бобік. Нік пасвіў авечак, а Бобік вартаваў іх.

Аднойчы, як звычайна, яны пасвілі авечак. Дзень прайшоў спакойна. Надвячоркам Нік адправіўся дадому прынесці хлеба і малака, а Бобіка пакінуў пільнаваць авечак. Сабака заснуў, але хутка прачнуўся. Яго пабудзілі авечкі. Яны моцна бляялі. Бобік паглядзеў па баках і ўбачыў воўка.

Гаспадара побач не было. А воўк ужо выбіраў сабе авечку. Тады Бобік рынуўся на яго і хацеў укусіць. Але воўк ухіліўся, і Бобік ледзь не зламаў сабе лапу, урэзаўшыся ў дрэва. Яму пашанцавала: ён ухапіўся за воўчы хвост зубамі. Ды з такой сілай, што адарваў яго!

Калі прыйшоў гаспадар, Бобік спакойна спаў і ў зубах у яго быў воўчы хвост. А ўсім вядома, што бясхвостыя воўк ніколі не вяртаецца на тую ж пашу.

КАНЕЦ



**ГУТАРКА З НАГОДЫ**

(Заканчэнне. Пачатак на 11-й стар.).

для мяне "драбнічку": як яму аднойчы давялося пабыць у ролі перакладчыка з беларускай на англійскую мову аднаго празаічнага твора.

Творам тым было апавяданне не мэтра, а маладога пісьменніка Андрэя Федарэнкі. Па гэтай прычыне факт тым больш неардынарны. Ён і паслужыў зачэпкай для гаворкі з гэтым празаікам.

**— Дык як, Андрэй, табе, маладзёну, давялося прабіцца на старонкі такога салiднага амерыканскага выдання, як часопіс "Ікарус"?**

— — У двух словах не раскажаш. Была цэлая гісторыя. Да мяне звярнуўся тадышні сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Паўлаў: "Ці лічыш сябе адным з самых лепшых беларускіх пісьменнікаў?" — "Вядома!" — адказваю. — "Тады давай на конкурс пару апавяданняў. Арганізоўваецца па прапанове Міністэрства замежных спраў Беларусі. Запрашаем усіх таленавітых. Лепшае апавяданне будзе прадстаўляць беларускую літаратуру і, адпаведна, Беларусь у салідным амерыканскім часопісе, які мае намер прэзентаваць усе пятнаццаць рэспублік колішняга Савецкага Саюза".

**— І што далей?**

— Я аднёс два апавяданні. Спачатку чакаў нейкіх вынікаў, а потым махнуў рукою: ці мала што ў той Амерыцы прыдумаюць! Нават пра ўсё гэта і забыўся. Але тут, дзесьці праз год, прыходзіць пакет, дзе паведамляецца, што маё апавяданне "Бляха" выйграла конкурс і рэдакцыя мае намер яго апублікаваць. Патрэбна мая згода на права першапублікацыі па-англійску. Калі згаджаюся, павінен запоўніць усе прысланыя паперы. А іх, скажу вам, было багата, у тым ліку і вельмі падрабязная анкета-апытальнік. На падставе яе там пісалі ўступны артыкул да апавядання. У ім не толькі пра Беларусь, але і пра маю жонку. Адаслаў я тыя паперы і праз пару месяцаў атрымаў гранкі апавядання па-англійску і ліст перакладчыка Расціслава Завістовіча, дзе ён пісаў пра складанасць працы, якую ён выканаў разам са сваім сынам.

**— Няма сумнення, што перакладчыкам давялося пашчыраваць, бо вядома, што перакладчыцкі хлеб — нялёгкі. Нават для прафесіяналаў.**

— Сапраўды! Вось, напрыклад, у маім апавяданні такія звыклыя для беларусаў словы, як **дзед** і **баба**. Традыцыйна вясковыя дзед і баба. А як назваць гэтых персанажаў па-англійску? Дакладнага ж адпаведніка няма. У тэксце яны называюцца **стары містэр** і **старая лэдзі.** Успрымаецца з гумарам, ці не так? Але іначай пазначыць было нельга. Ды гэта, зрэшты, дробязь. Куды важней было натуральна перадаць побыт, саму атмасферу беларускай вёскі, пра якую амерыканцы маюць вельмі цьмянае ўяўленне, бо ў іх нічога падобнага няма.

**— І, мяркуеш, перакладчыкі справіліся з такой звышзадачай?**

— Думаю, што так, бо іначай апавяданне б не надрукавалі.

**— Цікава, як па амерыканскіх мерках аплачваецца праца перакладчыка?**

— Мабыць, як і кожная кваліфікаваная праца, — высока. Але ў гэтым выпадку яны нічога не атрымалі, бо па дамове публікацыя была безганарарнай.

**— Дык і табе, выходзіць, нічога не перапала?**

— Мне то перапала, ды яшчэ і як! Аж 200 даляраў. Так што на той час я пахадзіў багачом. Але гэта не быў ганарар. Мне заплацілі за тое, што я дазволіў апублікаваць апавяданне па-англійску, а рэдакцыя магла распараджацца ім у далейшым.

**— То, магчыма, апавяданне са старонак часопіса пайшло гуляць па свету...**

— Вось гэтага я і не ведаю. Але, хутчэй за ўсё, наўрад.

**— Андрэй, гэта быў твой адзіны прарыў у шырокі свет ці здараліся яшчэ? Маю на ўвазе ўдзел у конкурсах.**

— Чаму ж не! У 1992 годзе зусім нечакана для сябе стаў лаўрэатам конкурсу "Адораная моладзь", які праводзіла міжнародная асацыяцыя фондаў свету, гуманітарны фонд "Веды" імя акадэміка Вавілава і Цэнтр "Філантрапія". Удзельнікаў было вельмі шмат. Але і адбор, мяркую, строгі. Бо першага месца ўвогуле не прысуджалі. А вось другое за апавяданне "Пеля" дасталася мне. Два трэція — маладым пісьменнікам з Масквы і Эстоніі. Дыплом падпісаны чэмпіёнам свету па шахматах А. Карпавым і акадэмікам К. Фраловым. Узнагароды ўручалі ў Расійскай акадэміі навук. Усё было вельмі ўрачыста і прадстаўніча, аж не верыцца сёння. Займаў таксама першае месца ў конкурсе па драматургіі, але гэта ўжо дома, у Беларусі.

**— У ім удзельнічалі і вядомыя драматургі?**

— А як жа! Нават сам Аляксей Дудараў!

**— І які твор ты туды прадстаўляў?**

— Сваю інсцэніроўку аповесці "Салдат".

**— А ў тэатры яе не спрабавалі паставіць?**

— Спрабуюць. Валера Мазынскі на "Вольнай сцэне". Але мне з рэжысёрам працаваць цяжка, я да сцэны не прывучаны. Там трэба быць паслухмяным, а я да гэтага не вельмі здатны. Праўда, маю п'есу "Жаніх па перапісцы" паставілі ў Іўеўскім і Слонімскім народных тэатрах, але гэта адбывалася ў асноўным без майго ўдзелу.

**— Але ж і выдаешся не вельмі часта. Маю на ўвазе кнігі.**

— Гэта не ад мяне залежыць. Першая кніга "Гісторыя хваробы" выйшла ў бібліятэцы часопіса "Маладосць" у 1989 годзе, а ў наступным у выдавецтве "Мастацкая літаратура" зборнік апавяданняў пад той жа назвай.

**— Як! Дзве розныя кнігі і пад адной назвай?**

— Як на сённяшні мой розум, то сапраўды недарэчна. Але тады быў нявопытны і пагадзіўся з рэдактарам. У 1994 годзе выйшла кніга "Смута", за якую мне прысудзілі літаратурную прэмію імя Івана Мележа, але, як мяркую, з улікам аповесці "Вёс-

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# ПА́МАРАК



Восень, цямнее рана. У хаце стыла, няўтульна, а выпаліць грубку — шкода дроў, невядома яшчэ, якая зіма будзе. Антоля накінула куфайку, сыпнула ў кішэню пару жмень гарбузовых семак, замкнула хату і пайшла цёмнай гразкай вуліцай на другі канец вёскі, да сяброўкі Евы, — "гуляць".

Каб ведала, якая навіна яе чакае, якой бядою да яе гэты візіт прыкінецца, — лепш мерзла б у няпаленай хаце, у тэлевізар, ці ў цёмнае акно, ці ў белую столь глядзела б, а й за дзверы не выйшла б. Але хто-то ўмее ўгадаць наперад?

Ідзе Антоля, сунецца па гразі. Цёмна — ног не відаць, вусцішна, ні адзін сабака не брахне. Аж чуе, нехта насустрач — чэп, чэп. Дарма, што цямень, а Антоля адразу прызнала:

— Гэта ты, Еўка?

— А то ты, Антолю?

— Я. Я к табе.

— А я да цябе!

Да Антолі бліжэй, толькі ж сорамна за стылую хату.

— Маладзіца, каля мяне столькі гразі, што чобаты грузнуць... Мо ў твой бок сушэй.

Завярнуліся, прыйшлі да Еўкі, паскідалі ў парозе запэцканыя боты, паздымалі куфайкі. У Евы чыста, цёпла, пасярод падлогі — вялікі, звязаны з квятастых абрэзкаў круг-палавік, на крузе кот ляжыць і хрыкае. Антолінага ката не тое што на падлогу — на печ не загоніш; бывала, як пачуе мароз, дык у самую печ залазіць. Адграбе лапай засланку, залезе і грэецца каля чыгуноў.

— А гэта што? Як бы пір? — застыла Антоля, убачыўшы на стале пачатую бутэльку "Кагора", дзве талеркі, дзве чарачкі. — Зяць хіба прыязджаў?

— Ой, не пытай, маладзіца! Не зяць, — Еўка чамусьці засаромелася, аж прыкрыла хусткаю рот. — Я ж і йшла да цябе рады прасіць...

У Антолі заблішчэлі ад цікаўнасці вочы. Вёска невялікая, тут кошка акоціцца, і то навіна.

— Дык хадзем туды, — запрасіла Еўка, пратупала ў большую хату — маленькая, зграбная, тоўсценькая, адно калываецца трохі з боку на бок, як качка. З малых гадоў дэфект, а мужчынам, наадварот, такая хада даспадобы. Толку, што яна, Антоля, і высокая, і роўная, бы дзяржак, ідзе не кіўнецца, хоць шклянку вады на галаву стаў — не разалье, а ніхто не паквапіўся, не ўзяў, так і звекавала адна.

Еўка ўключыла тэлевізар, Антоля прысела на зэдлік, прытулілася да гарачай грубкі, высыпала на край зэдліка семкі:

— Бяры, — прапанавала, знарок хаваючы цікаўнасць, нібы кожны дзень тое і рабіла, што давала людзям рады.

— Ай, зубоў на іх шкода! — адмовілася Еўка, а ў самой толькі два ўстаўныя, і то кутнія. Засмяялася нечаму свайму, паківала галавою: — Гэта ж Кузьма прыходзіў, — сказала, сама дзівячыся такой падзеі.

— Чаго?

— Сысціся хоча. От выдумаў...

— Папраўдзе?! — Антоля нават прыліплую да губы лушпайку з семкі выцерці забылася. — А як жа... у яго ж Наста нядаўна памерла!

— Як нядаўна... У Пакровы акурат год.

Еўка ўсё пасміхалася і ківала галавою. А Антоля, агаломшаная, уставілася ў тэлевізар, у якім дон Хуліа каторую ўжо серыю ўпрошваў Сільвію пайсці за яго, глядзела, слухала і нічога не разумела. Як жа так?.. Што ж гэта будзе?.. Яны ж з Еўкаю аднолькавыя. Адзінокія. Яны ж і зрабіліся сяброўкамі, бо Еўка пахавала чалавека і як бы зраўнялася з Антоляй, ім ужо не было чаго дзяліць. Хай у Еўкі дачка, зяць, унукі — але ж далёка, у горадзе, гады ў рады наязджаюць...

І хіба кепска ім было адным? У Еўкі — карова, у Антолі — паплоўчык. Прыйдзе Кузьма, скосіць, яны абедзве раструсяць, высушаць, пераносяць памалу ношкамі да Еўкі ў хлеў. Малака, сыроваткі, сыру, само сабою, хапае абедзвюм. Бульбу трэба садзіць — Кузьма возьме каня. Паарэ адной і другой, пасадзяць... Капаць трэба — Еўка сама йдзе да Антолі, яшчэ й зяця з дачкою вядзе, калі тыя падгадалі прыехаць. Пакапаюць сабе і Кузьму памогуць. Трэба біць кабана — дамовяцца, каму перш, каму пазней. Кузьма заколе, разбярэ — лепшыя кавалкі нясуць адна адной, і Кузьму перападае. А то, у якое-небудзь невялікае свята, калі можна лёгкую работу рабіць, надумаюцца, пойдуць да Кузьмы, памыюць падлогу, пабеляць столь.

А хіба кепска ім было "гуляць", вось як цяпер? Калі цёпла, відно — пасядзець на лавачцы перад хатаю, калі цёмна — кіно паглядзець у тэлевізары... Тую ж Кузьмову Насту, калі яна яшчэ была жывая, абгаварыць: як яна "за сваім гора век не знае", "жыве бы ў Бога за пазухай"... А потым, калі ў адзін год памерла Наста, — "рак з'еў" — яны з той жа шчырасцю, з якой абгаворвалі, і пашкадавалі яе, і паплакалі, і абмылі... На памінках, цэлы дзень на нагах прастаяўшы, нагатавалі ўсяго, і на дзевяці былі, і на саракавінах...

Само жыццё зводзіла іх пад старасць у гэты трохкутнік: Антоля — Еўка — Кузьма. Жывіце, памагайце адно аднаму, інакш і быць не можа. І вось табе маеш. Яны пабяруцца, а ёй, Антолі, куды адной? Галавою ў пельку?..

Антоля страпянулася:

— І што ж ты надумала?

— Што ж я яму скажу, маладзічка, — у яго свае дзеці, у мяне свае, прыедуць, я ж сваім больш захочу даць, а ён сваім...

— Ідзі, маладзіца! — горача пачала ўпрошваць Антоля. — Хіба ж ты не знаеш яго дзяцей? Яны ж не п'юць, не кураць, як той казаў, баяцца дыхнуць на чалавека, хіба ж яны табе слова суперак скажуць?

— Ой, не знаю, не ведаю... А есці не так зварыш, мо ён да чаго іншага прывык, то думай, як дагадзіць...

— Што яму ўжо там выварваць — як ні згатуеш, усё лепш, чым ён сам!

Еўка пачырванела і сказала цішэй:

— Ён жа мужчына, хвароба іх знае, што ў іх наўме... Яшчэ ў ложак захоча.

— Дык што за канец свету, калі захоча?

— Адчапіся! Я ўжо забыла, што да чаго... Баюся.

У тэлевізары донна Сільвія, сарамліва схіліўшы чорную галаву, упарта адказвала дону Хуліа, што ёй трэба ўсё абдумаць як след. Дон Хуліа не адставаў.

— Дык гэта як, вы і распісвацца будзеце? — пацікавілася Антоля. — І пярсцёнкі мо ў вас будуць?

— От не балбачы! — засердавала Еўка. — Пярсцёнкі... Ты ж хаця маўчы, бо я твой язык знаю.

— Цю! Калі-то я ўжо каму што гаварыла?

— От сказала табе адной, каб пасмяяцца.

— А які тут смех, маладзіца? Ідзі — дэй.

Вярталася Антоля дахаты тою ж гразкай цемраю. І што за доля такая, думала, век адна, як тычка пры дарозе, у Еўкі дзеці і ўнукі, у Кузьмы дзеці і ўнукі, а ўсё мала... У каго е — таму й Бог дае...

З таго вечара заселі гэтыя словы стрэмкаю ў галаве. Звіняць у вушах, як начны кашмар, што і не кусае, і не адчапляецца, адно дзынчыць і дзынчыць, бы насланнё якое. Каб хоць работа была, лягчэй было б. А так — якая работа ў познюю восень? Ну, вугаль з печы, з грубкі выграбці, занесці высыпаць на ярка-зялёную, пасля атавы ўжо, траву паплоўчыка. Ну, хату падмесці. Кабана, курэй пакарміць — вось і ўся работа. Соткі падпараныя, агарод пусты, толькі пачарнелыя, паламаныя цыбукі кукурузы тырчаць паўз мяжу. Холадна, пахмурна і раніцаю, і ўдзень, а чуць пад вечар, ужо і цёмна.

Да Еўкі хочацца — пагаварыць, распытаць, — а нельга. Пасвараныя сяброўкі. Не вытрымала Антоля, на другі ж дзень расказала ўсім у краме:

— Гэта ж вяселле ў нас скора можа быць!

— А дзе ж у нас маладыя?

— Ёсць маладыя...

Еўцы пераказалі, тая засердзілася, вядома, а Антоля і сама да яе цяпер паткнуцца баіцца.

Мо тыдзень ці пару тыдняў прайшло з той размовы, як раз, пад вечар ужо, Антоля стаіць на двары. Падвязвае драцянкаю плот да шула, якое абгніло ў зямлі так, што на адным стрыжані жыве, вось-вось паваліцца. Аж бачыць — ідзе Кузьма, згорбіўся, накульгваючы, і вядзе за повад Еўчыну карову, а ззаду Еўка, падганяе дубцом. Антоля прысела, стаілася. Прайшлі і не зірнулі, адно карова павярнула да яе галаву.

І без таго горка было, але ўсё думалася: а мо раптам пашэнціць? Мо пагавораць людзі — дэй Кузьма сабе астанецца, Еўка сабе, памірацца і зноў будуць жыць, як жылі. А цяпер так адзінока, так моташна зрабілася, што хоць ты галасі.

Каб папраўдзе Кузьма з Еўкаю вяселле рабілі — на легкавых машынах, як



## ГУТАРКА З НАГОДЫ

ка", якую якраз апублікаваў часопіс "Полымя". Яна мела гучны розгалас. "Вёску" я ўключыў у кнігу "Аповесці і апавяданні", якая з 1994 года ляжыць у выдавецтве "Мастацкая літаратура", сабрала прыстойны тыраж, штогод уключаецца ў план, але пераносіцца на наступны год. Мне з яе ўжо і ўцехі не будзе, бо змарнаваўся, чакаючы, і, лічу, перарос яе. Але што зробіш! Праўда, у "Юнацтве" ў серыі "Прыгоды і фантастыка" вось-вось павінна выйсці мая кніга "Шчарбаты талер". Так што жыццё не такое ўжо для мяне і шчарбатае!

**— А калі ў цябе ўзнікла жаданне пісаць! І ўвогуле, як глядзіш на мастацкую творчасць!**

— Пачаў пісаць яшчэ ў школе. Некалькі вершыкаў надрукавалі ў мазырскай раённай газеце. Але я сябе тады пісьменнікам не ўяўляў. Увогуле пісьменнікаў уважаў за багоў. Маю на ўвазе празаікаў, бо верш, мне здавалася, зрыфмаваць няцяжка. А вось стварыць твор, дзе будуць жыць, гаварыць і дзейнічаць людзі, гэта мне здавалася чымсьці незвычайным, дзеля чаго, паўтаруся, патрэбна мець боскі талент. Хацеў паступаць на журфак, але мне адмовілі, бо не прадставіў патрэбных публікацый на творчы конкурс. Пайшоў на бібліятэчны факультэт цяперашняга БУКа (Беларускага універсітэта культуры). І не шкадую. Там я быў адзін, хто пісаў, і гэта падахвочвала. Яшчэ студэнтам стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**— А на каго ў творчасці арыентаваўся, хто табе з сучасных беларускіх пісьменнікаў найбліжэй!**

— Чытаў шмат, асабліва калі пасля школы працаваў у вясковай бібліятэцы. Гэта быў для мяне шчаслівы час. Чытаў і беларускіх пісьменнікаў, і рускую, і замежную класіку. Чым больш чытаеш, тым болей абуджаешся, разварушваешся для ўласнай творчасці. З беларускіх пісьменнікаў мінулага часу мне найбліжэй творчасць Лукаша Калюгі. Во дзе талент! Якая арганічнасць, натуральнасць беларускай стылістыкі, багацце мовы! А яму ж, як арыштавалі, было ўсяго 24 гады! А мне ўжо аж 34! Люблю таксама апавяданні Кузьмы Чорнага. З сучасных пісьменнікаў найбольш шаную творчасць Івана Пташнікава, а са сваіх равеснікаў — Алеся Наварыча.

**— Традыцыйнае для пісьменніка пытанне: над чым працуеш!**

— Над творам пра Слуцкае паўстанне. Ён будзе складацца з трох частак. Па жанру — аповесць ці раман. Пакуль не вызначыўся. Але не гэта галоўнае. Асноўнае — узровень. Таму і рухаецца марудна. На першую частку патраціў год.

**— А як ты ставішся да тых, хто пакідае Беларусь у пошуках лепшай долі на Захадзе!**

— Многія мае знаёмцы ставяцца да гэтага рэзка адмоўна. Як, кажуць, можна ў такой сітуацыі здраджваць Беларусі! Я ж да гэтага больш памяркоўны — у кожнага свая доля, свая сцяжына ў жыцці. І кожны сам за сябе адказвае. Яшчэ невядома, як ім там павodзіцца, бо шчасце — гэта не толькі матэрыяльны дабрабыт. У некага, можа, шчыміць душа, і яму больш няўтульна, чым тут нам на Беларусі. Усё ж залежыць ад чалавека. Мяне, каб і азалацілі, я б не здолеў жыць без сваёй Бацькаўшчыны. Проста не змог бы!

**— Будзем спадзявацца, што тыя, хто ад'язджае за мяжу, не страчаныя для нас людзі. І няхай для іх прыкладам будзе здзейсненае нашым агульным знаёмым Расціславам Завістовічам. Галоўнае — жыць для Беларусі.**

Гутарыў **Яўген ЛЕЦКА.**

## МАРА ЗБЫВАЕЦЦА



*"Сумаваць з табой, зямля мая, і святкаваць з табой..." Гэта не толькі словы з песні для выпускніцы гродзенскай школы № 28 Наташы АНТОШЫНАЙ. Яна вырашыла звязаць з зямлёй сваё жыццё па-сапраўднаму і паступіла на агранамічны факультэт Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута, а цяпер рыхтуецца да экзаменаў за першы курс.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.*

Антоля ў тэлевізары бачыла, з пярсцёнкамі, з фатографам, — і то не было б так крыўдна, як пасля гэтай каровы на паводчыку...

Зусім раскісла Антоля. Запусціла сябе. Ні есці не можа, ні спаць, ні работу рабіць — адно ходзіць, туляецца па хаце, па двары і думае, думае. Абы-што ў галаву лезе. Уключыць кіно, каб думкі перабіць, — а ў кіне ізноў дон Хуліа ўпрошвае Сільвію... Здаецца, каб пайшоў да каго ды выгаварыўся, выліў усё з душы, дык і палягчэла б. Але каму ты пра такое скажаш? Смяяцца будуць, разнясуць па вёсцы, Еўцы перакажуць... *Як памарак хто накінуў!*

Да таго дайшла Антоля, што нават распранацца перастала, так і клалася ў куфайцы. Ці-так, ці інакш, усё адно сну няма. Накрыецца зверху коўдраю, пад бок кот падлезе, грэе трохі, і добра.

Глянула раз у люстэрка — а людцы мілыя, аж сама спужалася. Счарнела, ссівела, высахла ў цёску, толькі вочы блішчаць, бы ў труса.

— Яна гэта, Еўка, памарак нейкі накінула!..

Успомніла Насту — і яе ж Еўка абгаворвала, і яе, пэўна, звяла ў магілу. Слова нейкае знае, што б яе жытка не знала. Але ж не будзе па-твойму. Ратавацца трэба!

А як ратавацца? Пажыла Антоля на свеце, любую работу знала рабіць, а самага галоўнага, самага важнага — як памаракі здымаць — так і не ўведала. Патрэбы не было. Усё думалася — ат, гэта з другімі такое бывае, не са мною. Вось і кусай цяпер локці, сохні, марней, спі ў куфайцы...

Ведала, што стрыгуць нейкую поўсць у сабакі ці ў авечкі, піхаюць пад стрэху... Яшчэ след неяк іголкаю бяруць... Жыта неяк завязваюць у вузел... А якія словы пры гэтым казаць? Як стрыгчы, як вязаць, як запіхваць? Усё ж гэта ўмець трэба!

Успомніла Антоля, што чула неяк, што жыве ў горадзе бабка не бабка, а маладзіца, якая галаву лечыць і памаракі можа здымаць. Але ізноў — у сваіх жа не будзеш распытваць, дзе тую маладзіцу знайсці. Пачні цікавіцца, уміг раскусяць, разнясуць, што "памарачная" яна, раз да знахаркі хоча...

Думала Антоля дзень і ноч і вось што надумала. Цішком, сама сабе паедзе ў горад, ніхто яе там не ведае. Пакруціцца на вакзале, на базары, падгадае часіну ды і папытае: скажа, сястра захварэла ці дзеверка, мо вы, людцы добрыя, тут жывяце, дык ведаеце адрас... Як надумалася, так і павесялела. Нагрэла вады, вымылася ў балеі, прычасалася, новую хустку дастала, сабрала ў сумку грыбоў белых сухіх нізку, мо з паўкіло, цыбулі вязанку, кус сала, узяла пенсію, не расходаваную за тры месяцы.

Ужо як выходзіла, крыху развідняла; убачыла — плот упаў, заваліўся ў двор, сагніло-такі шула. Усё адно да аднаго, але хай, не да плота, калі самой ратавацца трэба.

Добра было думаць, а прыехала ў горад, вылезла з аўтобуса на вакзале — у каго папытаць, як да каго падступіцца? Гэта ж не падыдзеш, не бухнеш у лоб: "Дайце мне адрас знахаркі", — трэба ж здалёку пачаць, абзнаёміцца, абгаварыцца, а ўжо тады як бы неўзнарок, як бы і патрэбы вялікай няма, а так сабе, успомнілася да месца: "А мо вы ведаеце ці знаеце, хто б падказаў..."

Ніхто на Антолю пазіраць не хоча. Нікому няма справы да яе. Сунулася туды, сюды, да прыпынку падышла. Стаіць збоку мужчына, у пальце, у шапцы, як бы гарадскі.

— Скажыце, як мне праехаць... — і засаромелася Антоля, ніяк не можа гутарку завязаць.

— Куды праехаць?

— У... паліклініку! — надумалася раптам само сабою.

— А тут ехаць не трэба, — ахвотна стаў тлумачыць мужчына. — Ідзіце гэтай вулічкай уніз, уніз...

Хіба ж Антоля сваёй раённай паліклінікі не ведае? Але абазвалася, дык мусіць ісці. Як пайшла Антоля, азірнецца — стаіць мужчына, глядзіць ёй услед. Так, азіраючыся, і дайшла да паліклінікі, маленькай, драўлянай. Увайшла ў сярэдзіну. На калідоры мала людзей, перад рэгістратурай зусім нікога няма. Анатоля прытулілася да батарэі.

— А вы да каго? — аклікнула яе раптам дзяўчына з акенца рэгістратуры.

— Я так сабе зайшла, — разгубілася Антоля.

— Запісвайцеся, цётка, пакуль людзей мала, — параіла дзяўчына. — Што ў вас сама больш баліць?

— Ох, мая доня, усё баліць, і галава, і спаць не магу...

— Вось бачыце. Я вас да тэрапеўта запішу, у яго зараз няма нікога. Толькі распраніцеся.

Запісала, талончык, картачку падала. І так расчуліла Антолю гэтая ўвага, што аж даўкі камяк падняўся ў грудзях і слёзы да вачэй падступілі.

— Дай жа табе Бог, донечка... — і не дагаварыла, пабаялася, што заплача зараз.

Здала пальто ў гардэроб, сумку з сабою ўзяла. Знайшла кабінет. Пастукала, прасунулася ў дзверы.

Сядзіць за сталом малады мужчына, у белым халаце, у акулярах. Піша. Падняў галаву:

— Сядайце, — паказаў на табурэтку. — Ну што з намі такое?

— Галава мне вельмі моцна баліць, мо якое даўленне, ці што. Не сплю, не ем, — пачала Антоля, а даўкі камяк не праходзіць, цісне і цісне пад грудзі. Слязьмі просіцца праравацца...

— Закасайце рукаво.

Абкруціў руку траскучай матэрыяй, пажмакаў "грушаю":

— Даўленне ў вас нармальнае. Я вам, бабушка, выпішу снатворнага, а ад галавы — цытрамону.

— Ох, мой галубок, хоць чаго-небудзь выпішыце, хоць труцізны, каб ужо выпіць, ды мо хто абмые ды закапае, каб гэтая галава дурная не балела! — і не стрымалася, усхліпнула. І яшчэ раз, і яшчэ — і вось ужо плача, аж плечы трасуцца.

Доктар адклаў ручку, паглядзеў на яе ўважліва.

— У вас хто ёсць з радні? — ціха, яшчэ больш мяккім голасам спытаў.

А Антоля раве, слова сказаць не можа — раўчуком плыве! Доктар падхапіўся, наліў з графіна вады ў шклянку, падаў:

— А ну, перастаньце, што гэта яшчэ за навіны!

— Няма... галубок... нікога! — усхліпваючы, каўтаючы ваду і слёзы, хутчэй пачала расказваць Антоля — каб толькі доктар не сердаваў, даў ёй выгаварыцца. — Адна, як палец! Была падруга, ды замуж пайшла другі раз, бо чалавек яе памёр, а ў таго Кузьмы, за каго яна пайшла, жонка памерла, Наста, якраз год на Пакровы было...

І кажа, і кажа ўсё падрад:

— Не сплю, не ем, чалавеча, я ўжо думала, мо які памарак накінулі на мяне...

А доктар слухае, не перабівае. Выслухаў усё і сказаў:

— Цяпер зразумела. Вашая хвароба ад таго, што вы сябе дужа моцна шкадуеце, падаграяце ўвесь час гэтае шкадаванне і яшчэ больш самі сябе растраўляеце.

— Ох, шкадую, бо хто ж мяне яшчэ пашкадуе?.. Вы вунь вады падалі — і то мне як лягчэй!

Доктар узяў чысты рэцэптурны бланк:

— Выпішу я вам не снатворнага, а вельмі харошых таблетак, мезапам называюцца, супакойваюць нервы. Спачатку трохі санлівасць будзе, а потым усё пройдзе, павесялееце, а што спаць пачняце, дык гэта я вам гарантую.

Вось жа залатыя людзі бываюць на свеце!.. Мала, што так хутка і лёгка памарак зняў, дык яшчэ і таблеткі харошыя выпісаць хоча... Антоля раптам схамянулася — сумка ж каля ног стаіць, вось варона, так чаго добрага і забыцца магла б, і панесла б усё назад. Схапіла сумку, бохнула прама на стол перад доктарам.

— Што гэта? — адхіснуўся той.

— Грыбкоў трохі, цыбуля, сала — вазьміце, прашу вас! Вы мне такую работу зрабілі, — Антоля, як вылечылася, пасмялела, ужо настойваць не баіцца: — Грыбы хоць вазьміце, пабачце толькі якія, адзін у адзін!

— Схавайце зараз жа, яшчэ зойдзе хто... — а ўбачыў грыбы, прыцішэў. Узважыў нізку ў руцэ, азірнуўся на дзверы: — Ну, раз вы настроіліся, дык пакладзіце самі, вунь туды, у шафу, на сярэднюю паліцу...

— Усё класці?

— Ну, і цыбулю яшчэ... А вось сала забярыце, катэгарычна!

Шчаслівая: угаварыла-такі, перакапала чалавека, не пагрэбаваў, Антоля хутчэй да шафы, апаражніла сумку, хацела цішком і сала пакласці, ды пабаялася. Трэба меру знаць.

Зусім другім чалавекам, чым калі заходзіла, выйшла з кабінета і з паліклінікі. Хоць на свет белы глянуць можна, а то ж было не дай Бог...

На вакзале, пакуль чакала аўтобуса, загаварыла першая да суседзяў — адной маладзіцы з чалавекам. Яны здалёку, прыязджалі на базар па парасяты, ды спазніліся, добрых разабралі, адзін брак застаўся. Антоля паспачувала, параіла на другі раз, што калі ёсць ім у горадзе ў каго пераначаваць, дык трэба з вечара ехаць, бо цяпер добрае парася купіць — праблема.

— А я ж захварэла была, — падзялілася яна, — але вельмі доктар папаўся, уміг даў рады, — і так проста гэтыя словы ў яе выйшлі. З кожным бывае, хварэла і вылечылася, не трэба больш людзей саромецца і нячыстую сілу шукаць.

Тое, што маладзіца з чалавекам была, дык цяпер Антоля ані не зайздросціла і не шкадавала сябе. Побач шчасце — толькі не для яе, як тое кіно пра дона Хуліа і Сільвію: здаецца, і чутно, і відно, і блізка — экран можна памацаць, а чужое, далёкае-далёкае, немагчымае...

У аўтобусе ўжо ўспомніла, што таблетак купіць забылася, і аптэка ж была на вакзале. Хай, мо ўжо другім разам калі.

Не заходзячы да сябе, як толькі з аўтобуса, перш-наперш кінулася на той канец вёскі — да Кузьмы. Няма нікога, хата на замку. Антоля — на другі канец, да Еўкі. Аж не даходзячы сваёй хаты, яшчэ здалёк бачыць: ідзе там нейкая работа. Антоля бліжэй — і вачам не верыць: новенькі плот амаль гатовы. Кузьма шула ўкапаў, прыбіў новую жэрдку, цяпер дошкі мацуе, а Еўка збоку стаіць, цвікі падае.

Антоля як была, так да яе:

— Мая ты галубка, а я ж думала...

— Цішэй ты, — цыкнула Еўка. Адышліся ў двор: — Ён дарма што кажа — глухі, — кіўнула на Кузьму, — а што не трэба, уміг пачуе. Я ж не паспела табе сказаць тады, што да яго баба нейкая з Залозак, таксама ўдава, сваталася, у прымы хацела пераманіць... А каб я не перахапіла і ён пайшоў? Што б мы без яго рабілі? Ты ж знаеш, які мой зяць, дарма што разумны, а на работу нікудышны, ён жа ні араць, ні малаціць, ні каня запрэгчы, ні кабана ўбіць... А гэты будзе нам мужчынаю, адзін на двох. Я ж і рабіла з такім, як той казаў, прыцэлам...

Так і прайшоў у Антолі памарак, дзякуючы добрым людзям. Зняўся сам сабою, як і не было яго. Хоць пад старасць, а і ёй шчасце выпала.

**ПАДАРОЖЖЫ: ЗАПРАШАЕ БЕЛАРУСЬ**



# КОЖНЫ ДЗЕНЬ НА РАДЗІМЕ МОЖА БЫЦЬ НЕПАЎТОРНЫМ



**ДАРАГІЯ суайчыннікі! Ці даўно вы былі на Радзіме! Хутка лета, і, можа, наспеў час новай сустрэчы з Бацькаўшчынай! Калі так, Беларусь рада вітаць вас і шчыра запрашае да сябе ў госці.**

Канешне, першыя памкненні замежных землякоў на Беларусі скіруюцца ў родныя мясціны — іх ці іхніх бацькоў і дзядоў. І тое стане найбольш кранальнымі, шчымлівымі хвілінамі сустрэчы. Але па-сапраўднаму спазнаць Беларусь, пабачыць яе ва ўсёй прыгажосці і непаўторнасці можна толькі, павандраваўшы па самых розных кутках краіны. Менавіта да гэтага і заклікае турыстычнае агенцтва з Мінска "Аэраспэйс Трэвел".

Як вядома, усялякае падарожжа пачынаецца з вакзала ці аэрапорта. "Аэраспэйс Трэвел" сярод іншага прапануе і ўласныя транспартныя паслугі. Кожны панядзелак і пятніцу яго кліенты маюць магчымасць скарыстацца спецыяльнымі рэйсамі Мінск—Парыж—Мінск, Парыж—Мінск—Парыж. Але тут чакаюць гасцей з усіх куткоў свету. Вам толькі трэба адправіць заяўку па вышэйуказаных нумарах факса. У агенцтве таксама дапамогуць аформіць візу, сустрэнуць на Беларусі, забяспечаць размяшчэнне ў адным з камфартабельных гатэляў у цэнтры Мінска ці ў яго прыгарадзе — загараднай зоне адпачынку.

Якую ж праграму знаходжання на Беларусі прапануе гасцям турыстычнае агенцтва "Аэраспэйс Трэвел"?

Найперш, канешне, экскурсіі па сталіцы краіны. Мінск прываблівае ўтульнасцю, спакоем, чысцінёй шырокіх сучасных вуліц, праспектаў, уздоўж якіх расце мноства пышных каштанаў, стромкіх таполяў, духмяных ліп. Абавязковы пункт праграмы знаходжання ў сталіцы — наведванне тэатраў, канцэртаў, музеяў. Кошт усіх уваходных білетаў, дарэчы, па сусветных мерках, вельмі танных, адразу ўключаецца ў агульны кошт тура.

Ну а далей дарогі павядуць турыстаў у розныя бакі ад сталіцы (можна і на верталёце). Напрыклад, у палескі Тураў, цэнтр старажытнай славянскай культуры, або на Бярэзіну, у невялікі, але добра вядомы аматарам айчыннай і сусветнай гісторыі горад Барысаў — менавіта ў тых краях калісьці адбываліся значныя падзеі Айчыннай вайны 1812 года паміж Напалеонам Банапартам і Расійскай дзяржавай. Акрамя гістарычнай часткі праграмы, у Барысаве турыстам прапануюць наведванне славутага беларускага прадпрыемства — Хрустальнага завода. Завершыцца ж падарожжа на Бярэзіну пікнікам на маляўнічым беразе ракі. Падчас паездкі ў Белавежскую пушчу турысты пазнаёмяцца з былой сядзібай графа Тышкевіча, пабачаць стаянкі старажытнага чалавека, зойдуць у "Белую Вежу" — помнік айчыннай даўніны і г. д.

Экскурсія па спартыўным комплексе "Раўбічы", дзе, дарэчы, праводзіцца нямала міжнародных спаборніцтваў, мае іншы характар. Тут, акрамя знаёмства са спартыўнымі аб'ектамі, арганізатары прапануюць агледзець экспазіцыю музея народнага прыкладнога мастацтва. Потым, калі ёсць жаданне, вас чакаюць і Бярэзінскі біясферны запаведнік, і Браслаўскія азёры, і Прыпяцкі нацыянальны парк. І паўсюль турыстаў сустрэнуць гасціннасць і шчыры клопат гаспадароў. Дзесьці гасцей пачастуюць лячэбнай мінеральнай вадой, узятай тут жа са свідравіны (санаторый-прафілакторый "Баравое"), дзесьці прапануюць наведванне сауны, катанне на санях, лыжах — зімой, прагулкі на цеплаходзе — летам, агляд вальераў з дзікімі жывёламі, фотасафары, рыбную лоўлю і прыгатаванне юшкі ля возера, дэгустацыю нацыянальных страў і г. д.

Сярод паслуг, што прапануе сваім кліентам "Аэраспэйс Трэвел", ёсць некалькі асаблівых. Па-першае, агенцтва можа прыняць не толькі "дарослыя" групы, але і школьнікаў, колькасцю да 20 чалавек. У такія праграмы абавязкова асобным пунктам уключаюцца сустрэчы з равеснікамі, наведванне навучальных устаноў, харчаванне — поўны пансіён. І другое. Праграмы некаторых тураў прадугледжваюць выезд у Расію — у Маскву, Санкт-Пецярбург ці Калінінград тэрмінам да 2-х сутак: у такім выпадку не патрабуецца дадатковая ўязная расійская віза, дастаткова толькі беларускай. Гэта вельмі зручна, бо эканоміць час, грошы і сілы падарожнікаў.

Трэба дадаць, што пры павелічэнні часу знаходжання турыстаў на Беларусі ім таксама прапануюцца экскурсіі ў мемарыяльны комплекс у памяць ахвяр другой сусветнай вайны — "Хатынь", музейна-этнаграфічны комплекс з дзеючымі народнымі промысламі "Дудуткі", на радзіму Якуба Коласа, Францішка Скарыны, у Мір і Навагрудак.

Паважаныя суайчыннікі! Кожны дзень, праведзены на Бацькаўшчыне, — непаўторны і каштоўны ўжо сам па сабе. Але калі ваша знаходжанне на Радзіме да таго ж яшчэ афарбуецца і яркімі ўражаннямі цудоўных вандровак, то такое падарожжа стане незабыўным на доўгія гады або і на ўсё жыццё. Прыязджайце, Беларусь будзе рада сустрэчы з вамі!

*АЭРАСПЭЙС ТРЭВЕЛ АЭРАСПЭЙС ТРЭВЕЛ АЭРАСПЭЙС ТРЭВЕЛ*

# ВЯСНА. МОДА. ПРЫГАЖОСЦЬ



АДЗІН з галоўных абавязкаў жанчыны — быць прывабнай. Немагчыма авалодаць прыгажосцю без умення апранацца з густам і вытанчанасцю. Паказ аўтарскіх мадэлей, што адбыўся ў Беларускім цэнтры моды, стаў спробай дапамагчы кожнай беларускай жанчыне знайсці свой вобраз, свой стыль. Мастакі-мадэльеры Вольга Ламака, Аэліта Бурносава, Жанна Гушча прадставілі гледачам і пакупнікам сваю вясенне-летнюю калекцыю. Яна ўразіла і новымі колерамі, і новымі формамі.

Летась Беларускі цэнтр моды святкаваў сваё 50-годдзе. За такі тэрмін працы творчы калектыў неаднойчы заяўляў пра сябе як на Беларусі, так і за яе межамі. Сёння жанчына, якая хоча мець якаснае, прыгожае адзенне і быць упэўненай, што не сустрэне сукенку, падобную на сваю, больш ні на кім, набывае яе ў Беларускім цэнтры моды. Тут ганарацца, што, нягледзячы на эканамічныя складанасці, змаглі захаваць высокакваліфікаваны калектыў швачак, мастакоў-мадэльераў, тэхнолагаў.

Цяжка не пагадзіцца з мастацкім кіраўніком Беларускага цэнтра моды Нінай Астапенка, калі яна кажа, што кожная жанчына чакае ад свайго адзення свята. Яго могуць стварыць рэчы, якія дэманстраваліся на паказе. Класічныя касцюмы, вячэрнія туалеты, спартыўная вопратка. Усё гэта можна было пабачыць і набыць. Многія рэчы адпраўляліся з паказу адразу ў салон-магазін. Канешне, кошт іх не кожнаму па кішэні. Тым больш; што асноўная частка калекцыі — эксклюзіўныя мадэлі, вырабленыя ў адзіным экземпляры.

Вельмі сучасна і эфектна выглядаюць касцюмы з традыцыйнага для Беларусі льнянога палатна, якія, дзякуючы ручной вышыўцы і вытанчанаму крою, становяцца элітарнай дарагой мадэллю (мастак-мадэльер Аэліта Бурносава). Мадэльеры выкарыстоўваюць асіметрыю — вышыўка, колер пакідаюць звыклае месца на касцюме, тым самым надаюць адзенню і жанчыне таямнічасць, непрадказальнасць.

Ніна Астапенка сцвярджае: "Стаць модным — значыць любіць сябе. Любіць упрыгожваць адзеннем у тым ліку. Бывае так: чалавек сябе не цэніць. Глядзіць у люстэрка і засмучаецца: які ж я непрыгожы. Звярніце ўвагу на нашы мадэлі і тое, як носяць іх манекеншчыцы. Зрабіце спробу быць падобнымі да іх па ўпэўненасці ў сабе, па адчуванню стылю. Вы станеце прыгажэйшымі".



Над мужчынскім адзеннем, што было паказана, працавала мастак-мадэльер Жанна Гушча. Яна падкрэсліла кожнай сваёй мадэллю, што хоць і галоўнае для мужчыны — жанчына, якая побач з ім, але ж ён павінен ісці ў нагу з модай таксама. Каб быць упэўненым у сабе. Каб падкрэсліць прыгажосць жанчыны.

**Алена СПАСЮК.**



**«Голас Радзімы»**

**Рэдактар Наталля САЛУК**

**Заснавальнікі:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 623 экз. Індэкс 63854. Зак. 616.
Падпісана да друку 5. 04. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**
**Тэлефоны:**
**(+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**